

№ 3(20)
Студзень 2004 года

# Краязнаўчая газета

## У нумары:






## Бабруйскаму краязнаўчаму музею – 80 гадоў




## Цуд на Каляды

Безумоўна, свята Божага Нараджэння прыносіць з сабою чаканне нейкага цуду. Свежае марознае паветра напоўнена нечым таямнічым і загадкавым. Але ў вялікім горадзе ў гэтыя дні, часам, вельмі сумуеш па вясковай Калядзе, што з вясёлымі песнямі і жартамі нясе незабыўнае адчуванне свята і непарушную сувязь стагоддзяў.

Таму, напэўна, група перапанутай моладзі, што спявала калядкі каля Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, звяртала на сябе шмат увагі з боку тых, хто ішоў у тэатр або проста па вуліцы. Моладзь зрабіла немагчымае: пертварыла шматлюдную вуліцу ва ўтульны вясковы закуточак, стварыла вакол сябе атмасферу святочнай радасці.

Сабраліся ж калядоўшчыкі каля гэтага будынка невыпадкова, бо ўвечары 26 снежня тут праходзіла драматычная містэрыя «Звеставанне Марыі». На мэце маладых людзей было такім чынам стварыць адпаведны настрой у тых, хто будзе глядзець містэрыю, а таксама зацікавіць іншых, хто яшчэ не ведае пра яе.

Арганізавала Каляду, у якой мне пашчасціла прыняць удзел, парафіяльная моладзь з Архікатэдральнага касцёла імя Найсвяцейшай Панны Марыі. Мы спявалі калядныя песні, а потым паказалі сцэнку «Цар Ірад». Атрымалася вельмі смешна і цікава, галоўнай жа мэтаю было паказаць, куды вядуць чалавека злосць, зайздрасць, бязмерная прага да грошай ды ўлады. Я лічу, што акцёрская ігра простых хлопцаў і дзяўчат была не горшая за прафесійную, ішла з самага сэрца. Лепшай жа падзякай для нас сталі словы ўдзячнасці, добрыя ўсмешкі і апладысменты гледачоў.

Спадзяюся, што такі прыклад будзе на карысць грамадству. Бо гэта проста цудоўна, што новае пакаленне падтрымлівае старыя беларускія звычаі, дае сапраўднае сведчанне веры і любові да Радзімы, яе мовы і гісторыі. І гэтыя простыя і вясёлыя калядкі кажуць за іх удзельнікаў куды больш, чым прыгожыя і ўзнёслыя словы. Упэўненая, што гэтая Каляда стала сапраўдным цудам у святочныя дні!

*Ларыса ДАРАШЭНКА, школьніца, г. Мінск*



*Добрая вестка*

## Каб па Аўгустоўскім вандраваць...

Пачынаецца новы 2004 год з добрай весткі, якая прыйшла да нас з Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 8 студзеня 2004 года А. Р. Лукашэнка падпісаў Указ «Аб арганізацыі работ па рэканструкцыі часткі Аўгустоўскага канала», той яго часткі, якая праходзіць па беларускай зямлі.

У апошнім нумары «КГ» мінулага года быў апублікаваны артыкул краязнаўца з г. Скідзеля Ілы Барысава аб гэтым унікальным інжынерным збудаванні XIX стагоддзя, якое водным шляхам яднае Беларусь з Польшчай і Літвой і якое, будучы аднаўленым, дае магчымасць наладзіць у гэтым маляўнічым куточку Беларусі (каля 40 км ад г. Гродна) новыя турыстычныя шляхі як суседзяў да нас, так і нашы да суседзяў.

Аўгустоўскі канал мае значэнне ў гісторыі нашых краін не толькі як інжынернае збудаванне. У спалучэнні з некранутым прыродным асяроддзем ствараe своеасаблівы культурны краявід, варты ўключэння ў спіс сусветнай спадчыны, аб чым «КГ» неаднаразова згадвала на сваіх старонках на працягу мінулага года.

Цяпер, пасля прыняцця такога важнага для лёсу часткі Аўгустоўскага канала рашэння Прэзідэнта, трэба не замарудзіць яго выкананне. Адна з праблем, пакуль не вырашаная, застаецца: хто будзе гаспадаром канала, хто будзе заказчыкам выканання комплекса работ па яго рэстаўрацыі? Важна, каб гэта вызначалася не келейна, а шырокім колам спецыялістаў-рэстаўратаў: архітэктараў, механікаў, ландшафтнікаў, гісторыкаў.

*Рэдкалегія*

*(Працяг тэмы – стар. 2.)*







## Указ Президента Республики Беларусь

8 января 2004 г.
№ 2 г. Минск

Об организации работ по реконструкции части Августовского канала

1. Осуществлять начиная с 2004 года реконструкцию части Августовского канала протяженностью 21,2 км, проложенного по территории Гродненской области, обеспечив ввод в эксплуатацию до 1 июня 2006 года.

2. Совету Министров Республики Беларусь:

предусматривать в 2004–2006 годах необходимые средства для финансирования работ по реконструкции части Августовского канала и строительству в его зоне пунктов пропуска через государственную границу Республики Беларусь;

до 1 июня 2004 г.:

обеспечить разработку и в установленном порядке утверждение архитектурно-строительного проекта реконструкции части Августовского канала;

в установленном порядке определить заказчиков выполнения комплекса работ по реконструкции указанной части канала и строительству пунктов пропуска через государственную границу Республики Беларусь;

при необходимости принять меры по заключению международно-правовых актов, связанных с реконструкцией и эксплуатацией Августовского канала;

провести работу по организации процедуры включения Августовского канала в список всемирного культурного наследия ЮНЕСКО;

принять иные меры по реализации настоящего Указа.

3. Контроль за выполнением данного Указа возложить на Комитет государственного контроля.

4. Настоящий Указ вступает в силу со дня его подписания.

Президент
Республики Беларусь
А. Лукашенко

*Ліст з рэдакцыі*

Шаноўны Ілья Барысаў!

Мы з хваляваннем пазнаёміліся з Вашым матэрыялам, прысвечаным Аўгустоўскаму каналу, які сваімі рукамі ўтваралі і нашы прадзеды, каб злучыць наш Нёман з Віслай і такім чынам мець сваё "акно" ў Еўропу. Як вядома, даўжыня канала 102 кіламетры, з іх па нашай зямлі – толькі 22. Але і яны былі запушчаныя, асабліва ў вайну і пасля яе. З Вашага матэрыялу мы даведаліся пра людзей, якія ў пасляваенны час намагаліся аднавіць патрэбны канал, ды іх улада не толькі не падтрымала, але яшчэ праследавала. Як тую ж сям'ю інжынера Урбанка, якога разлучылі з жонкай, з дзецьмі і саслалі, як потым выслалі і няшчасную жанчыну. Мы ўведалі таксама, што пазней пра канал клапаціўся сын інжынера Урбанка Тадэвуш, за свае сродкі ўтварыў музей, дзе прапагандаваў збудаванне; пасля ягонай заўчаснай смерці літаральна сваё жыццё захаванню канала прысвяціла яго жонка Яўгенія Урбанок, фотаздымак якой Вы даслалі ў рэдакцыю, а мы змясцілі яго ў "КГ" № 17.

Шаноўны калега, безумоўна, і Вы парадаваліся, што нарэшце з'явілася пастанова на самым высокім узроўні з рашэннем рэстаўраваць Аўгустоўскі канал на нашай зямлі. Мы з Вамі вельмі не будзем цешыць сябе надзеяй, што публікацыя зрабіла ў гэтай справе станоўчы ход. Але яна паказвае іншае: рана-позна голас грамадскасці будзе пачуты, таму нам усім неабходна сумесна як след клапаціцца пра захаванне нашай гісторыка-культурнай спадчыны, мовы і мастацтва – неацэннага дара, дадзенага нам лёсам на наша развіццё, годнасць і паўнацэннасць сярод паўнацэнных людзей і народаў.

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*

*Ліст чытача*

# Ад Рагвалода і Тура...

У апошнім нумары "КГ" за мінулы год былі апублікаваны вытрымкі з лістоў і званкоў чытачоў, якія выказвалі свае погляды наконт далейшага накірунку выдання.

Было выказана нямала цікавых думак, асабліва пра новыя рубрыкі краязнаўчага характару. Як кажуць, дай Бог вам здароўя і настрою ўсё гэта споўніць. Асабіста я хачу сказаць колькі слоў у падтрымку тых, хто цесна звязвае працэс фарміравання ідэалогіі з нашым краязнаўствам і ў гэтай справе ўхваляе У. Пуціна, які падмуркам дзяржаўнай ідэалогіі Расіі бачыць гістарычную памяць, г.зн. тое добрае, высакароднае, што было зроблена продкамі. А як жа інакш? Невуцтва ці бяспамяцтва нідзе не прыводзіла і не прывядзе да станоўчых вынікаў.

Вось пра помнікі. Добра, што яны час ад часу з'яўляюцца – гістарычным гарадам і вёскам, вядомым людзям, нават свавольніку нашых двароў вераб'ю ці арыгінальнай літары нашага алфавіта "ў" і г.д. Але чаму для гістарычнага, культурнага напаўнення былой і сённяшняй дзяржаўнасці не выдзеліць бюджэтныя сродкі не на нейкія "базары-балаганы", "шлягеры", а, скажам, на агульны помнік нашым буйным дзяржаўным дзеячам, пачынаючы ад легендарных Рагвалода і Тура? Няма пазнейшых ці бліжэйшых да нас па часе дзеячаў вялікага маштабу? Ёсць. Не хопіць сродкаў? Давайце скінемся. Не знойдзецца вольнае месца ў сталіцы, яно ўжо занята Леніным ці Калініным? Няма, не хапае, не знаходзіцца іншага, таго падмуркавага, пра што гаварыў летась расійскі прэзідэнт у Старой Ладазе, азіраючы яе старажытныя, вядомыя з VIII стагоддзя мясціны.

Шаноўныя калегі-чытачы, за тое, што ёсць ці чаго няма, у пэўнай ступені нясём адказнасць і мы, не паважаючы і не шануючы сваю гісторыю, продкаў, дзяржаўнасць.

*Мікалай ЗАЯЦ,*
*пенсіянер*



*Жывучы за межамі Бацькаўшчыны, заставацца беларусамі. На гэта накіраваная праца нашых суайчыннікаў у Латвіі, дзеля чаго там і працуе Таварыства беларускай культуры "Сьвітанак". А ў 2002 годзе пад кіраўніцтвам спявачкі Аляксандры Ларыёнавай і піяніста-акампаніятара Людмілы Кароль здзейснілася даўняя задума – гурт беларускай песні "Сьвітанак". Цешаць сваім майстрэрствам удзельнікі яго не толькі землякоў, але і бяруць удзел у мерапрыемствах Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі.*

*Асобы-краязнаўцы*

# З любоўю да Лепельшчыны

***Знакаміты лепельскі археолаг Міхаіл Кусцінскі (1829–1905) сваё жыццё прысвяціў пачэснай справе вывучэння мінулага краю, пошуку гістарычных каранёў сваіх продкаў-крывічоў.***

Нарадзіўся ён у маёнтку Завідзічы, што на беразе Лепельскага возера, у заможнай шляхетнай сям'і. Атрымаўшы грунтоўную адукадыю ў Віленскім дваранскім інстытуце і на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, Міхаіл Францавіч пачаў работу не па спецыяльнасці, а выбраў напружаную, карпатлівую працу археолага і дасягнуў у гэтай справе ўражлівых вынікаў. Асабліва плённымі былі адкрыцці, знаходкі на тэрыторыі Лепельскага павета Віцебскай губерні.

Пяру археолага належаць некалькі навуковых публікацый, якія ў сярэдзіне XIX – пачатку XX стагоддзяў былі змешчаны ў розных перыядычных выданнях. Хочацца звярнуць увагу чытачоў на адзін з апошніх артыкулаў сапраўднага члена Імператарскага Маскоўскага Археалагічнага таварыства М. Ф. Кусцінскага "З заметак аб курганах Лепельскага павета", юбілейнага ў гэтым годзе, змешчанага ў сёмым нумары "Полацкіх епархіяльных ведамасцей" за 1903 год.

У сваёй працы вучоны піша: "З раскопак курганоў, праведзеных мною ў Лепельскім павеце, прыходжу да вываду, што іх трэба падраздзяляць на дзве катэгорыі. Да першай адносім курганы старажытнейшыя, размешчаныя пераважна ў сасновых лясах, з парослымі на іх старымі дрэвамі. Курганоў бывае значная колькасць, у адной групе – ад 100 да 200 і больш. Характэрная рыса магільнікаў тая, што ў іх не толькі няма прадметаў, якія служылі ў паўсядзённым выкарыстанні памерлых, але нават чалавечыя косці амаль поўнасцю саттлелі; рэдка сустракаем абломкі пасудзін і вуголле.

Такія курганы бачым:

– у казённай Гутаўскай лясной дачы;

– у лясной дачы маёнтка Бяздзедавічы Ветрынскай воласці;

– у лясной дачы маёнтка Завідзічы Воранькай воласці".

На апошняй даследчык знайшоў звыш 100 курганоў, некаторыя з якіх мелі да 7 сажняў (каля 15 метраў) у акружнасці і вышыню да 5 аршын (5–6 метраў).

У розныя часы з 1853 да 1890 года археолагам было раскапана 9 курганоў, але ў іх нічога не было знойдзена, акрамя сатлелых касцей.

Да другой катэгорыі Міхаіл Кусцінскі адносіць курганы позніх часоў язычніцтва, якія згрупаваны ў невялікай колькасці – ад 2 да 20. У іх добра захаваліся і косці, і пакладзеныя пры пахаванні прадметы, якімі карысталіся памерлыя пры жыцці. Гэта наступныя групы:

– каля Лепеля на беразе канала, які ўваходзіць у склад Бярэзінскай воднай сістэмы і злучае возера Проша з Лепельскім возерам;

– за чатыры вярсты ад Лепеля над возерам Бораўна 7 курганоў.

"У адным з іх, раскапаным у 1860 годзе, – паведамляе Кусцінскі, – былі тры касцякі. Першы ляжаў у аснове насыпу – мужчынскі, пры ім знойдзена бронзавая спражка ад пояса, бронзавы пярсцёнак; другі касцяк – жаночы, вышэй першага на адзін аршын (0,71 м), на руках бронзавы пярсцёнак, даволі буйны, на шыі белаватыя пацеркі, накшталт жэмчугу, але згнілыя ад сырасці; у верхняй частцы – касцяк дзіцяці прыкладна гадоў 10, пры ім ніякіх прадметаў не было. Асаблівасцю згаданага кургана з'яўляецца тое, што гэта адзіны выпадак пахавання трох нябожчыкаў у адным кургане ў тры ярусы, а таксама як рэдкі выпадак знаходжання касцяка дзіцяці ў кургане".

Цікавым падаецца нам апісанне Міхаілам Францавічам двух даволі вялікіх, насыпаных радам курганоў на полі каля вёскі Бораўна (за 6 км ад Лепеля). Гэта урочышча, па словах мясцовых сялян, называецца Княгінкі ці магіла Князя. Па існуючым паданні, калісьці, вельмі даўно, жыў у гэтай мясцовасці нейкі князь, у яго была маладая, прыгожая жонка. Аднойчы ён адправіўся на працяглую вайну, і калі вярнуўся, то даведаўся, што жонка выйшла замуж за іншага. Ахоплены невыноснай рэўнасцю і гневам, князь забіў сваю жонку, а потым і сябе. Іх пахавалі ў двух курганах, удалечыні ад іншых.

"Раскапаўшы абодва курганы, – паведамляе археолаг, – у адным з іх мы знайшлі касцяк мужчыны, пры ім з левага боку ляжала жалезнае кап'ё, з правага – вялікі тапор, або, дакладней, бярдыж (баявая сякера з лязом у форме паўмесяца на доўгім дрэўку); у другім кургане – касцяк жанчыны, на шыі сярэбраныя каралі, даволі тоўстыя, на руцэ бранзалет у выглядзе спіралі".

Прайшло 100 гадоў, як дакладна, аргументавана, зацікаўлена, з любоўю да роднага краю зрабіў Міхаіл Кусцінскі апісанне археалагічнага мінулага адной з састаўных частак непадзельнай, незалежнай Беларусі.

*Ілья ЯНУШ,*
*Лепель*

**Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! У студзені нас стала болей. То будзьма разам і надалей. Каб разам пашыраць нашую сябрыну, нагадваем, што падпісацца на "КГ" можна з любога месяца. Давайце не губляцца ў вялікім свеце сучаснай мітусні!**

Падпісныя індэксы:
індывідуальны – 63320, ведамасны – 633202.

*"... І дзякуй скажа родны край".*

## Шматмоўе ў Мінску



Яно гучала ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі, куды нядаўна завіталі маладыя людзі – прадстаўнікі вышэйшых навучальных устаноў больш чым з дваццаці краін свету. Тут адбыўся фестываль творчасці студэнтаў замежных краін. Студэнты, якія абралі беларускія ВНУ за сваю альма-матэр, пазнаёмілі мінчан са сваёй культурай – самага рознага профілю: ад кухні і кулінарыі да жывапісу і кінамастацтва, і ўсе работы студэнты выканалі самі. У гэтых творах адчувалася вялікая любоў да роднай краіны, яе гісторыі, мовы і культуры.

Забытае імя

# Па слядах Антона Неманцэвіча

***Пасёлак Альбярцін Слонімскага раёна (цяпер мікрараён Слоніма) узнік у першай палове XIX стагоддзя як сядзіба маршалка шляхты Слонімскага павета В. Пуслоўскага (1762–1833). У 1924 годзе тут быў адчынены манастыр айцоў-езуітаў усходняга абраду і навіцыят.***

***У пачатку верасня 1929 года ў Альбярцін з Рыма прыязджае Антон Неманцэвіч, які пры Усходнім Інстытуце вывучаў усходнее багаслоўе і абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Бальшавіцкае заканадаўства ў Расіі адносна рэлігійнага і маральнага ўзгадавання дзяцей у параўнанні да божага права, натуральнага і аб'ектыўнага».***



Антон Неманцэвіч – асоба вельмі цікавая, яго жыццёвы, рэлігійны і творчы лёс амаль не даследаваны. Наш зямляк у 1930–1940-х гадах мінулага стагоддзя займаў кіруючае становішча ў Беларускай грэка-каталіцкай (уніяцкай) царкве, быў першым беларускім экзархам і да таго ж шчырым патрыётам Беларусі. Найлепшым на сённяшні дзень з'яўляецца артыкул пра Антона Неманцэвіча, які напісаў айцец Леў Гарошка. Ён быў апублікаваны ў парыжскім беларускім часопісе «Божым шляхам»(1956. № 70–73).

Нарадзіўся Антон Неманцэвіч у 1893 годзе каля Саколкі на Беласточчыне. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю і Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію. Калі вучыўся ў акадэміі, прымаў актыўны ўдзел у рабоце Беларускага гуртка, вывучаў і цікавіўся гісторыяй Беларусі, асабліва гісторыяй уніяцкай царквы. Пасля заканчэння духоўнай акадэміі ў 1918 годзе Антон Неманцэвіч працуе вікарыем парафіяльнага касцёла святой Кацярыны ў Петраградзе. За пратэст супраць арышту беларускага біскупа Цепляка айца Неманцэвіча на некалькі месяцаў арыштоўваюць і саджаюць у турму, а ў 1923 годзе ў турму ён трапляе паўторна. Яго вызваляюць у 1925 годзе ў выніку абмену палітвязнямі паміж СССР і Польшчай. Выйшаўшы на волю, наш зямляк едзе ў Рым, дзе вывучае тэалогію. З Рыма ў пачатку восені 1929 года ён прыязджае ў Альбярцін на Слонімшчыну.

Тут айцец Неманцэвіч прымае ўсходні грэка-каталіцкі абрад і становіцца настаяцелем грэка-каталіцкай царквы. Дарэчы, грэка-каталіцкая (езуіцкая) група ў Альбярціне мела на мэце адрадзіць у форме гэтага абраду царкоўную унію. Патронамі місіі былі папа рымскі Пій XI і віленскі арцыбіскуп мітрапаліт Ю. Матулевіч, пасля Р. Ялбжыкоўскі. Непасрэдна групай у Альбярціне кіраваў езуіцкі правінцыял з Польшчы Я. Урбан. Езуітам быў выдзелены будынак, дзе раней знаходзілася дырэкцыя Альбярцінскай суконнай і кардонна-папяровай фабрык. Былы іх уладальнік граф Пуслоўскі ахвяраваў місіі вялікія сродкі.

У Альбярціне айцец Антон Неманцэвіч пачынае выдаваць часопіс «Да Злучэньня». Першы нумар выйшаў у студзені 1932 года. Шмат артыкулаў для часопіса пісаў сам рэдактар, які падпісваўся сваім прозвішчам і псеўданімам Злучэнец. Акрамя свайго выдання, Антон Неманцэвіч пісаў і ў Беларускі каляндар, які выдаваўся ў Вільні. Паспяваў ён працаваць яшчэ над рознымі рэфератамі і выступленнямі па тэме уніі. Пра адзін такі факт згадвае Леў Гарошка ў часопісе «Божым шляхам» (1956., № 70–73. С.51): «Летам 1932 года адбыўся ў Пінску трэці Уніны Звезд, на які быў запрошаны а. Антон у характары прэлегэнта, ён меў чытаць пабеларуску рэфэрат аб вуніïнай працы. За пару дзён да адкрыцця зьезду, калі ўжо рэфэрат даўно быў гатовы, яму было загадана пераглумачыць рэфэрат на польскую мову. Гэтым фактам а. Антон быў так абураны, што больш ня ўдзельнічаў на ніводнай пазьнейшай вунійнай канфэрэнцыі».

У сярэдзіне 1933 года Антона Неманцэвіча з Альбярціна пераводзяць у Сынковічы (12 км ад Слоніма) на пасаду параха. А праз год яго адправяюць у Дубна на выкладчыцкую пасаду ў семінарыю. Па-ранейшаму Неманцэвіч рэдагуе часопіс «Да Злучэньня», але ў 1938 годзе ён спыняе свае існаванне. Прычынаю закрыцця выдання стала тое, што часопіс выходзіў па-беларуску. Тым не менш, у пачатку 1939 года Антон Неманцэвіч у Варшаве арганізоўвае выпуск новага часопіса «Злучэньне».

У верасні 1939 года Заходняя Беларусь уваходзіць у склад БССР. Шмат усходне-каталіцкіх парахвій было ліквідавана, але Антон Неманцэвіч наладжвае сувязі з Львоўскім украінскім мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім. Той у 1940 годзе стварае чатыры усходне-каталіцкія экзархаты, сярод іх і Беларускі Экзархат на чале з экзархам айцом Антонам Неманцэвічам. Дакументы былі дасланы ў Рым і зацверджаны папаю Піем XII 22 кастрычніка 1942 года.

Наш зямляк зноў вяртаецца ў акупіраваны немцамі Альбярцін, дзе распаўсюджвае думку, што нацыянальнай беларускай рэлігіяй павінна быць унія, бо так было ў мінулым. «Але падчас нямецкай акупацыі ў Слоніме, – як піша Леў Гарошка, – знаходзіўся моцны нелегальны цэнтр расейскіх арганізацыяў «Трудового союза» і «Братства русской правды». Гэтыя арганізацыі разам з праваслаўнымі япіскапамі ў недалёкіх Жыровічах лічылі Беларускі Экзархат вялікаю перашкодаю для свае дзейнасьці і не шкадавалі ніякіх высілкаў, каб яго зьнішчыць. Вельмі шмат інтрыгаў супраць экзарха рабіў актыўны сябра вышэйназваных расейскіх арганізацыяў і адначасна ўрадавец нямецкага гэстапо – Ушпік... Інтрыгі і даносы моцна паралізавалі дзейнасьць а. Антона. Трэба ведаць, што ў тым часе распачаліся на Слонімшчыне расстрэлы каталіцкага духавенства...»

Але Антон Неманцэвіч не здаваўся, а наадварот, у пачатку 1942 года на Слонімшчыне заснаваў яшчэ Апостальства Малітвы за Беларусь. Раз у месяц святары і прыхаджане маліліся за сваю Бацькаўшчыну.

І ўсё ж у жніўні 1942 года нямецкія гестапаўцы прыехалі ў Альбярцін, увайшлі ў манастыр і арыштавалі Антона Неманцэвіча. Са Слоніма яго адправілі ў Мінск, дзе праз паўгода ён памёр ад тыфу. Па іншых звестках, айцец Неманцэвіч быў закатаваны ў падзямеллях гестапа. А Янка Трацяк у Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (Мн., 1999. Т. 5. С. 320) сцвярджае, што Неманцэвіч памёр у турме ў Берліне...

**Пасля таго, як не стала ў Альбярціне Антона Неманцэвіча, уніяцкія манахі вельмі хутка пакінулі Слонімшчыну і выехалі ў Львоў. У наступным годзе споўніцца 80 гадоў з таго часу, калі ў Альбярціне пачала сваю дзейнасць грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква, а сёлета незаўважанымі прайшлі і 110-я ўгодкі з дня нараджэння Антона Неманцэвіча.**

*Сяргей ЧЫГРЫН*

*Радзім ГАРЭЦКІ*

## Мінеральныя рэсурсы Беларусі

***з кнігі «Вечна жыве Беларусь!»***

***(Працяг. Пачатак у № 1–2.)***

*Будаўнічыя і абліцовачныя камяні* з крышталічных парод фундамента здабываюцца ў кар'ерах Мікашэвічы (Брэсцкая вобл.) і Глушкавічы (Гомельская вобл.), агульныя запасы якіх складаюць 340 млн. м³. Мікашэвіцкі драбільна-сартыравальны камбінат – адзін з буйнейшых у Еўропе з прадукцыйнасцю 8 млн. м³ шчэбня ў год. Абліцовачныя камяні з радовішча мігматытаў кар'ера Надзея (Лельчыцкі р-н Гомельскай вобл.) з запасамі больш за 3 млн. м³ выкарыстоўваюцца для насцілу падлогі, прыступак у метро, абліцоўкі будынкаў і г. д. Дарэчы, сярод крышталічных парод Мікашэвіцкага кар'ера, а таксама на глыбінях у дзясятні метраў навакол пас. Жыткавічы распаўсюджаны *дыябазы* і *габра-дыябазы*, з якіх можна атрымліваць мінеральныя валокны, кераміку і інш.

З даўніх часоў сяляне выкарыстоўвалі гразі і ілы азёр для ўгнаення агародаў. Гэта так званыя *сапрапелі* (запасы іх – больш за 4 млрд. м³). Яны, апрача сельскай гаспадаркі (арганамінеральныя ўгнаенні, кармавыя дабаўкі), карысныя для медыцынскіх мэтаў (лячэбныя гразі), для свідравальных раствораў і г. д. Вядома 560 радовішчаў сапрапеляў, але распрацоўваецца з іх толькі 23 са здабычай каля 1 млн. т у год. Патрэбна больш сучасная тэхналогія іх здабычы. Некаторыя віды сапрапеляў зніжаюць утрыманне радыенуклідаў у глебе.

Па далінах многіх рэк Беларусі знаходзяцца вялікія запасы *мораната дубу*.

*Даламіты*, якія выходзяць на паверхню і якія можна добра бачыць па абрывістых берагах рэк на Віцебшчыне, даўно выкарыстоўвалі ў якасці карбанатных угнаенняў для вапнавання кіслых глебаў, а таксама для будаўнічых мэтаў. Радовішча Руба паблізу Віцебска мае запасы 800 млн. т. Тут знаходзіцца буйнейшае ў Еўропе прадпрыемства па вытворчасці даламітавай мукі (7–8 млн. т у год). Апрача таго, даламіты можна выкарыстоўваць як абліцовачны камень для вытворчасці шчэбню, баласту і г. д.

Упрыгожанні з *бурштыну* археолагі знаходзяць пры многіх раскопках. Пароды з кавалкамі бурштыну шырока распаўсюджаны на паўднёвым захадзе Беларусі і асабліва ў раёне паміж гарадамі Пінск, Іванава, Бяроза. Тут знойдзены ўжо не толькі адзінкі, але і першыя радовішчы бурштыну.

Адна з галоўных мінеральных сыравін Беларусі – *калійныя солі*, якія з 1963 г. здабываюцца на Старобінскім радовішчы (Прыпяцкі прагін), прычым яно давала прыблізна 50 % калійных угнаенняў усяго былога СССР. Разведаныя запасы калійнай солі Старобінскага радовішча разам з яшчэ не эксплуатуемымі Петрыкаўскім, Жыткавіцкім і Акцябрскім дасягаюць 9,7 млрд. т, а прагнозныя – звыш 80 млрд. т, з іх да глыбіні 1200 м (да якой рацыянальны шахтавы метад здабычы) – каля 20 млрд. т. Разам з калійнай соллю можна здабываць і спажывецкую соль, што ў апошнія часы нарэшце пачалі рабіць. Тут прысутнічаюць і прамысловыя канцэнтрацыі брому і рубідыю, але яны, на жаль, не здабываюцца. Выбар не найлепшай схемы распрацоўкі і тэхналогіі перапрацоўкі солей стварылі шэраг сур'ёзных праблем: высокі ўзровень страт руды ў нетрах, нізкае вылучэнне карыснага кампанента на ўзбагачальных фабрыках, страта ворных зямель пад солеадваламі і шламасховішчамі, засаленне падземных вод і глебы, прасадкі, забалочванне і г. д. Раён Салігорска стаў зонай экалагічнага бедства.

Запасы *спажывецкай солі* ў Прыпяцкім прагіне практычна невычарпальныя. Яна залягае на глыбінях ад 400 да 4000 м, магутнасць яе слоя дасягае 1–3 км, а плошча распаўсюджвання – прыблізна 30 тыс. км². Цяпер разведаны тры радовішчы – Давыдаўскае, Старобінскае і Мазырскае. На базе апошняга праце Мазырскі камбінат, які дае высакаякасную спажывецкую соль (больш за 250 тыс. т солі «Экстра» ў год) шляхам падземнага растварэння.

З солямі звязаны радовішчы гіпса. Адно з іх разведана недалёка ад в. Брынёў Петрыкаўскага раёна. Глыбіня яго залягання 170–470 м, а запасы больш 1000 млн. т. Тут можна падрыхтаваць здабычу гіпса ў 1 млн. т у год.

Да Прыпяцкага прагіну – гэтай сапраўднай скарбніцы карысных выкапняў Беларусі – адносяцца радовішчы высакаякаснай *нафты*. Першае (Рэчыцкае) было адкрыта ў 1956 г. Ужо ў 1998 г. урачыста адзначалі здабычу 100-мільённай тоны нафты. Тут вядома больш за 60 невялікіх радовішчаў нафты, а яе здабыча трымаецца на ўзроўні 2 млн. т у год. Астатковыя запасы нафты прамысловых катэгорый складаюць каля 70 млн. т, і газу – каля 10 млрд. м³.

У заходняй і цэнтральнай частках Прыпяцкага прагіну размешчаны басейн *гаручых сланцаў*. Магутнасць пластоў гаручых сланцаў – ад 0,2 да 3,7 м, цеплыня згарання 4,2–5,5 мДж/кг, зольнасць 75 %, выхад смол 6,0 – 9,2 %. Агульныя прагнозныя запасы 8 млрд. т, глыбіня залягання сланцаў 50–600 м. Найбольш вывучана Тураўскае радовішча. Сланцы прыгодныя дзеля перагонкі на вадкае і газавае паліва, яны цікавыя як каштоўны хімічны прадукт, будаўнічыя матэрыялы, угнаенне. Апрача таго, з імі звязаны некаторыя рэдкія элементы. Толькі комплекснае выкарыстанне гаручых сланцаў можа зрабіць іх здабычу рэнтабельнай.

***(Працяг будзе.)***

## Што вядома цяпер

Да 1940 г. самая глыбокая свідравіна ў Беларусі дасягала ўсяго каля 300 м, і толькі перад самым пачаткам вайны была зроблена свідравіна глыбінёй трохі болей за 1000 м. Яна адкрыла соль на Палессі. Геалагічная будова Беларусі была настолькі мала вывучана, што геолагі звярнуліся да вывучэння яе тэрыторыі як да «белай плямы» на карце былога СССР. Былі шырока праведзены геалагічныя (у тым ліку свідравальныя) і геафізічныя работы, і Беларусь стала сапраўдным адкрыццём як у сэнсе яе геалагічнай будовы, так і пошукаў карысных выкапняў, сярод якіх аказалася многа новых і важных. Міф пра беднасць нетраў Беларусі быў адкінуты.

*Уганараванне*

## Беларусы-праведнікі

Ёсць такое ўганараванне – «праведнік народаў свету». Такое званне прысвойвае Дзяржава Ізраіль грамадзянам іншых нацыянальнасцей з розных краін свету, якія не проста праявілі сваю дабрыню, міласэрнасць да яўрэяў у гады Другой сусветнай вайны, але рызыкавалі сваім жыццём і жыццём блізкіх, ратавалі самае дарагое – жыцці яўрэям, якіх фашызм прысудзіў да знішчэння, да смерці.

У кожным народзе ёсць авантурысты, самыя розныя нягоднікі, здраднікі, але ёсць і героі, якія (часам і гучна) чыняць дзеля народа подзвігі. У народзе шмат сваіх герояў – сціплых, нягучных, але па-чалавечаму шчырых, сардэчных, чалавекалюбных, адчайных, якія гэтыя якасці не трацяць, больш – праяўляюць у самых цяжкіх умовах, за што, паўторым, можа быць смерць. Дык вось, больш за 400 насельнікаў Беларусі ўдастоены за свой нягучны подзвіг звання праведнікаў – гэта значыць, святых людзей, якіх шануе Дзяржава Ізраіль.

Наш карэспандэнт гутарыў на гэту тэму ў Мінскім яўрэйскім абшчынным доме (там, у музеі, адлюстраваны некаторыя высакародныя ўчынкі сённяшніх праведнікаў) і даведаўся, што праведнікаў у суседніх з намі краінах значна больш. Зразумела, узнікла пытанне: няўжо ў нас з яўрэямі за амаль 600 гадоў сумеснага пражывання ў час вайны не складваліся такія дружалюбныя адносіны, як раней? Ды не, супакоілі карэспандэнта, проста і тут беларусы вельмі сціплыя (засціплыя) людзі: маўляў, зрабілі добрае – і добра, навошта ганарыцца. А каб стаць праведнікам (нават ужо і нежывому), патрэбны не толькі дакументальныя доказы (хто ў вайну мог даваць, браць такія даведкі?), але найперш пацвярджэнне некалькіх сведак. Так што і дзеці, і ўнукі могуць уганараваць сваіх бацькоў, дзядоў-самаахвярнікаў. І трэба парупіцца, пакуль ёсць магчымасць. Дзеля чалавечнасці, дзеля міру на зямлі і людскога паразумення.

*Вынікі віктарыны*

## Як ведаем сваю даўніну?

***Летась наша газета прапанавала чытачам пяць тураў віктарыны з пытаннямі пра беларускую гісторыю і культуру ранніх часоў, з XI па XIII стагоддзе. Усяго ў № 6, 8, 10, 14 і 15 было выдзелена 23 розныя тэмы.***

***Прыемна адзначыць, што віктарына не засталася па-за ўвагаю чытачоў, больш таго – знайшлося некалькі энтузіястаў, якія паказалі сваю глыбокую дасведчанасць і адказалі на ўсе пытанні.***



Добра вызначыўся вучань 11 класа СШ № 49 г. Мінска Андрэй Трусаў. Ён свае адказы даслаў на 38 старонках рукапісу, дзе падрабязна, са спасылкамі на крыніцы адказаў на кожнае пытанне, глыбока ўразіў эрудыцыяй, самастойным мысленнем і выявіў задаткі будучага гісторыка.

Таксама на ўсе пытанні і таксама зацікаўлена, дэталёва адказала старшы навуковы супрацоўнік Карэліцкага краязнаўчага музея «Зямля і людзі» Святлана Кошур. Гэтыя адказы, як і ў першым выпадку, можна друкаваць у газеце ў якасці кароткага курсу па беларускай гісторыі і культуры.

На ўсе пытанні (праўда, коратка) даслаў адказы і Аляксандр Ганчароў з вёскі Нісімкавічы Чачэрскага раёна.

Апроч вучняў СШ № 49 г. Мінска, добра вылучыліся і вучні СШ № 3 г. Вілейкі Сяргей Макарэвіч, Андрэй Собаль і Яўген Сярко. Яны паказалі сябе знаўцамі нашай даўніны як па яркіх тагачасных падзеях, так і па асобах. Праўда, вучні з Вілейкі даслалі адказы не на ўсе пытанні, асобныя туры чамусьці выпалі з іхняга поля зроку (можа, да іх не патрапілі першыя падпісныя нумары нашай газеты за 2003 год).

Усім, каго мы тут назвалі, вялікі дзякуй за ўдзел у нашай віктарыне, за лісты з іншымі матэрыяламі (штосьці з іх ужо надрукавана, штосьці рыхтуецца да друку). Усім жадаем здароўя, добрага настрою і ўдач ва ўсіх добрых справах! Будзьма сябраваць і далей!

А што да пераможцаў, то па аб'ёме і змесце выкананай працы вырашана вызначыцца так: I месца – Андрэй Трусаў і Святлана Кошур, II месца – Аляксандр Ганчароў, III месца – Сяргей Макарэвіч, Андрэй Собаль і Яўген Сярко.

Пераможцам будуць уручаны прызы і падарункі.

***Рэдакцыя***

# Гурыновічавы прысады

### Адаму Гурыновічу – 135 гадоў

***Кавалі... Гэтую назву згадваюць амаль усе літаратуразнаўцы, калі пішуць пра месца нараджэння даравітага беларускага паэта XIX стагоддзя Адама-Гілярыя Калікставіча Гурыновіча.***

***А дзе знаходзіцца той «фальварак Кавалі ў былым Вілейскім павеце»? Паспрабаваў і я колькі гадоў таму знайсці гэтую памятную літаратурную мясціну. Вёсак з такімі назвамі ў «былым Вілейскім павеце» аказалася чатыры. Кідаўся то пад Смаргонь, то пад Ілью. І толькі ў Мядзельскім раёне, каля Слабады, чакала мяне невялічкая, але прыемная радасць адкрыцця, хоць не ў тутэйшых Кавалях Адам Гурыновіч нарадзіўся. Няма ніякіх прыкмет фальварка, вёска, ды і ўсё. Але ж мясціны яго, родныя!***

Разабрацца ў гэтай блытаніне дапамог стары настаўнік-пенсіянер, былы выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Валяр'ян Георгіевіч Нафрановіч, хутарок якога прытуліўся ў гурыновічаўскіх мясцінах, прыцішыўся ля лесу, зводдаль ад сельсавецкага цэнтра.

– Фальварак, у якім нарадзіўся паэт, у нас называюць не Кавалі, а Кавалькі. Назва блізкая, але гэта не адно і тое ж, ды і знаходзіцца, можа, з кіламетр ад вёскі Кавалі.

Валяр'ян Георгіевіч успомніў пра крэўных з роду Гурыновічаў. З некаторымі з іх быў асабіста знаёмы, расказаў пра іх лёс, часам вельмі трагічны. У Кавальках з радні Гурыновічаў і Сіняўскіх нікога не засталося. Да 1955 года яшчэ жыў састарэлы фурман Сцяпан Гардынец, не толькі сучаснік паэта, але і сведка тых даўніх падзей, але вочы яго закрыліся, і адышоў у нябыт «сівенькі архіў» і нікому не пакінуў сваіх багатых успамінаў, хіба тое, што суседзям расказаў.

Якім жа быў фальварак Кавалькі на змене XIX і XX стагоддзяў? Давайце зверымся з даведнікам І. І. Гашкевіча «Виленская губерния. Полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении. Вильна, 1905 год». На 101 старонцы знаходзім апісанне Жосненскай воласці, куды ўваходзіў фальварак Сіняўскіх-Гурыновічаў – Кавалькі. Паводле перапісу, тут жыло ўсяго толькі чатыры душы: два мужчыны і дзве жанчыны. Мелася 173 дзесяціны зямлі, адлегласць да павятовага горада Вілейкі 63 вярсты, да бліжэйшай чыгуначнай станцыі Варапаева – 22 вярсты, да валаснога цэнтра добрыя тры вярсты. Гэта была правінцыя ў правінцыі, глухамань у глухамані. Ёсць у даведніку і вёска Кавалі са сваімі 93 душамі насельніцтва. Значыць, і па спісу населеных пунктаў Кавалі і Кавалькі праходзяць як самастойныя геаграфічныя назвы.

У Ленінградскім гістарычным архіве СССР мне трапіўся даволі цікавы дакумент, які датаваны 19 студзеня 1867 года, якраз за два гады да нараджэння будучага паэта. У гэтым дакуменце сказана, што Кавалі дасталіся па купчай грамаце Сіняўскаму Антону Казіміравічу ад Іосіфа і Віктара Федаровічаў. Па ўстаўной грамаце тут значылася шэсць двароў і 23 рэвізскія душы. Усё гэта належала дзеду Адама Гурыновіча па матчынай лініі.

Карціць паглядзець даведку на яшчэ адзін фальварак Гурыновічаў – Крыстынопаль, дзе пахаваны паэт. Меў сем жыхароў (чатыры мужчыны і тры жанчыны), зямлі ўдвая больш, чым у Кавальках – 352 дзесяціны. Да павятовага цэнтра Свянцяны – 66 вёрст, да бліжэйшай чыгуначнай станцыі Смаргонь – 42 вярсты. Амаль тая ж самая глухамань. Хіба да Вільні адгэтуль бліжэй.

Як жа сёння называюць тое месцейка, дзе нарадзіўся Адам Гурыновіч? Некалькі тутэйшых людзей назвалі Кавалькі. Спытаў на Слабадской пошце, зверыў па Мядзельскай раённай газеце «Нарачанская зара» – Кавалі і Кавалькі. Каб менш было блытаніны, усё ж, мусіць, трэба прывыкаць да думкі, што нарадзіўся паэт у Кавальках. Пара пашукаць яго сядзібу.

Вузенькая палявая дарожка праз узгоркі завяла ў Кавалькі. Парадзелыя дрэвы і такія ж парадзелыя прысады – мілая памяць далёкіх часоў. Апусцелы дзядзінец, рэшткі знікшага невядома калі саду. Дзе некалі Адамава хата стаяла, лысеюць камяні даўжэзнага падмурка, які паступова зацягваецца муравой. Засталося пару сялянскіх хатак пазнейшага часу, атуленых вішнямі. І цішыня. Толькі восеньская мяцеліца жоўтых лістоў круціцца над гэтым даўно ўжо не паэтычным месцам.

Пры дарозе Мядзел – Ваўкалата, насупраць яшчэ ажыўленай вёскі Слабады, ёсць высокі земляны насып правільнай формы, у якім угадваецца старажытнае гарадзішча. Называюць людзі «Весялуха». На гэтай узвышанай пляцоўцы не так яшчэ і даўно стаяў касцёл. Паблізу касцёла могілкі з пахіленымі помнікамі. Крыху воддаль магіла салдата Першай сусветнай вайны. Падыходжу да групкі магіл, якія калісьці былі поруч са сцяной касцёла. Надпісы ўжо не ўсе чытаюцца, і ўсё ж удалося разгадаць іх: «Сіняўскі Антон (18... – 24.VIII.1890); калежскі асэсар Алімпій Антонавіч Сіняўскі, памёр на 48 годзе, у 1892 г.; губернскі саккратар Антоні Алімпавіч Сіняўскі, памёр на 43 годзе, у 1913 г.». Усё гэта блізкія сваякі Адама Гурыновіча. Самы багаты помнік увекавечвае памяць маці паэта – Элеаноры Сіняўскай. Бацькавай магілы не ўдалося знайсці, хутчэй за ўсё Гурыновічаў хавалі не тут, а ў Крыстынопалі.

Шануюць памяць паэта-рэвалюцыянера жыхары Слабады. У тутэйшай бібліятэцы з густам аформлены стэнд пра жыццё і творчасць земляка. У цэнтры – партрэт Адама Гурыновіча, які намаляваны старшынёй мясцовага сельсавета. Ілюстрацыі, вытрымкі з твораў Адама Гурыновіча ажыўляюць літаратурны куток. Мне сказалі, што ў гэтым пакоі праводзяцца тэматычныя вечары, якія рыхтуюць настаўнікі і вучні Слабадской сярэдняй школы.

Вяртаюся дамоў і разважаю пра тое, як можна ўшанаваць мясціны паэта. Аўтобус тым часам падкаціў да прыпынку «Любань» Вілейскага раёна. На ўказальніку – «Іжа 10 км». І павярнуў я туды, бо ўспомніў просьбу дырэктара мясцовай школы аб арганізацыі краязнаўчага музея ў старым будынку былой парафіяльнай царкаўкі. Дырэктар быў у сельсавеце. Пасядзелі з ім ля калекцыі сабраных каштоўнасцей іхняй мясціны: дакументы, грашовыя знакі, археалагічныя малаткі, сякеры, узнагароды розных часоў і шмат іншага. Накідаў экспазіцыйны план музейчыка, параіў, што дазбіраць, і дамовіліся аб чарговай сустрэчы са школьнымі краязнаўцамі.

Хоць ужо і надвячорак браўся, але нельга ўпусціць магчымасць пабыць у Зольках. І вось калгасны «газік» выправіўся на Чурлёны, а трохі ўбок, лявей – і Золькі. Доўгая вёска, гусценька забудавана. І падумалася: забыліся тутэйшыя сяляне пра Гурыновічаву перасцярогу, які быў сведкам пажару ў Зольках. Згарэла ўсё датла. Паэт пісаў:

*А вы ж, братцы, тое знайце.*
*Радзей хаты расстаўляйце.*
*Калі дзе што загарыць,*
*Лацвей будзе загасіць.*

У хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX стагоддзя» (Мінск, 1971. С. 364) сказана, што «Золькі знаходзяцца на Вілейшчыне, недалёка ад фальварка Кавалі, дзе нарадзіўся паэт». Праўда тое, што вёска на Вілейшчыне, але ж далёка ад Кавалёў (Кавалькоў) і зусім блізка да бацькавага Крыстынопаля, дзе жыў і дзе пахаваны паэт.

Хоць час ужо і пазнаваты, але дзверы Золькаўскай бібліятэкі яшчэ адчынены, калі ласка... У чысценькай, утульнай, хоць і маленечкай чытальні адчуваўся прытулак муз. Старанная гаспадыня параіла сустрэцца са старажыламі вёскі, але пашкадавала: самыя цікавыя, самыя патрэбныя сведкі ўжо адышлі. Усё ж у дзве хаткі заглянуў...

– Золькі гарэлі не раз. Пра паэта не чуў ні разу, – сказаў стары. – Людзі з нашай вёскі ў час Першай сусветнай вайны былі выселены, далей ад лініі фронту. Месца гэта дрыгвістае, каровы раней тапіліся, людзі на лукох[1] копы выносілі. Вось салдаты і разбіралі тады нашы хаты, насцілалі бярвеннямі дарогу, каб зручней дабірацца да вогненнай паласы. Вёску адбудавалі, так і стаяць хаты ўжо гадоў шэсцьдзесят.

Другі старажыл дадаў, што ў суседніх Чурлёнах жыў дзед, які расказваў пра Гурыновічаў, але і яго ўжо няма.

Словам, зусім ясна, што Золькі тыя – гурыновічаўскія, як і суседнія вёскі, дзе бываў паэт.

А зараз пра памяць. У старым Мядзелі па прапанове Мінскага абласнога краязнаўчага музея Мядзельскі райвыканкам перайменаваў завулак Зялёны ў завулак Гурыновіча. А вось у Кавальках і да гэтага часу няма нават сціплага мемарыяльнага знака, а як бы добра было адзначыць яго памяць у радзімай старонцы – Кавальках, а таксама і ў Крыстынопалі, дзе аддалі зямлі маладое дваццаціпяцігадовае цела Адама Гурыновіча.

Пасля таго як гэтыя радкі пра паэта былі напісаны, пазванілі мне ў музей і паведамілі, што на Маладзечанскую базу утыльсыравіны прывезлі старыя кнігі з Ваўкалацкага касцёла. Марудзіць няма чаго, трэба ратаваць краязнаўчую крыніцу ведаў. А можа, гэта XIX стагоддзе? Так яно і ёсць. Старанна перапленыя кнігі і паасобныя, ужо набрынялыя вільгаццю лісткі, згружаныя ў адну кучу, павінны былі стаць сыравінай для новай паперы, але ці найлепшай? Месца гэтых абшарпаных кніг толькі ў архіве ці ў музеі. У дадзеным выпадку нядбайнасць адведзена, крыніцы выратаваны. Некалькі дзесяткаў ёмістых і вялікафарматных рэгістрацыйных кніг паступілі на захаванне ў фонды Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў горадзе Маладзечне. Бяру метрычныя запісы аб нараджэнні з 1862 па 1871 год. На старонцы 309 чытаю: «1869 года февраля 3 дня в Волколатском римско-католическом приходском костеле окрещен младенец по имени Адам-Гилярий ксендзом Абдоном Андрейковичем администратором сего костела с совершением всего обряда таинства». У графе пра бацькоў сказана: «Дворяне Каликст и Елеонора (урожденной Синявской) Гуриновичи зак. куп. сын родившийся сего года января 13 дня в фольварке Ковалях Волколатского прихода». Як і належала па абраду хрышчэння, запісаны кумы. «Восприимниками были дворяне Онуфрий Борисович с Пелагеей Гуриновичевной, девицею».

Нават дзеля імя Адама Гурыновіча варта было ратаваць даўнія метрычныя кнігі.

***Генадзь КАХАНОЎСКІ (з кнігі «Адчыніся, таямніца часу»)***

[1] Лукі – гаспадарчае прыстасаванне ў выглядзе лука, якое сяляне прымацоўвалі да сваіх ног і тым самым павялічвалі плошчу апоры пры выкананні работ на дрыгвяністых сенажацях.

*Па слядах літаратурнага героя*

# Супярэчлівыя шляхі лёсу

У 1989 годзе гэта была сенсацыя: з'яўленне палескага Рабінзона. Пра ўраджэнца вёскі Бастынь Івана Васільевіча Бушылу, які 42 гады хаваўся ў лесе, паведамлялі розныя газеты, выйшла аповесць Ярослава Пархуты «Адзінец». Год таму, прысвячаючы нарыс пісьменніку, Лунінеччыну наведаў карэспандэнт рэгіянальнай газеты «Для вас» (Івацэвічы) Святаслаў Кажадуб, пасля чаго надрукаваў некалькі публікацый з фотаздымкамі з Бастыні. Герой кнігі памёр у 1995 годзе, таму аўтар прыводзіў сведчанні сваякоў і знаёмых «адзінца» аб яго невінаватасці перад правасуддзем. Наракаючы на несправядлівасць лёсу, журналіст адзначыў, што звяртаўся ў органы КДБ з нагоды звестак, што датычаць І. В. Бушылы. Атрымаў адказ, што патрэбныя дакументы адсутнічаюць.

Прадстаўніку «Лунінецкіх навін» пашанцавала больш. З копіямі некалькіх дакументаў, якія захоўваюцца ў райваенкамаце, пазнаёміла галоўны спецыяліст па сацыяльнай абароне Валянціна Браніславаўна Насковіч. Прывядзём факты з двух афіцыйных сведчанняў, адно з якіх датавана жніўнем 1953 года.

Спачатку – адказы на анкету-запытанне з Цэнтральнага архіва Міністэрства абароны СССР (цяпер – Расіі), што знаходзіцца ў Падольску. З яе вынікае, што Іван Васільевіч Бушыла, 1922 года нараджэння, ваяваў на І Беларускім фронце з 8 верасня (прызваны 12 ліпеня) 1944 года па май 1945-га. Званне – яфрэйтар, вайсковая пасада – кулямётчык. Быў узнагароджаны медалямі «За баявыя заслугі», «За адвагу», «За перамогу над Германіяй».

З пастановы (на арышт і этапаванне), 50 год таму зацверджанай начальнікам Лунінецкага РА МУС падпалкоўнікам Крутавым 22 жніўня і санкцыянаванай пракурорам Лунінецкага раёна юрыстам І класа Чыжэўскім 28 жніўня, вынікае, што наш зямляк паходзіць з сераднякоў, беларус, грамадзянін СССР, беспартыйны, несудзімы. Оперупаўнаважаны РА МУС малодшы лейтэнант Пугачоў, які «разгледзеў матэрыялы ў адносінах злачыннай дзейнасці» Івана Васільевіча Бушылы і «знайшоў» – далей занатаваны падставы для такога вываду: «Бушыла І. В. збіў жыхара вёскі Бастынь Дырмана Лук'яна Іванавіча, 1885 года нараджэння, і былога ўчастковага, упаўнаважанага міліцыі Лунінецкага РА МУС Качановіча Сцяпана Рыгоравіча, які спрабаваў папярэдзіць бойку. Пасля гэтага, баючыся адказнасці, перайшоў на нелегальнае становішча і ўліўся ў рабаўніцкую ўзброеную банду «главаря» (па-руску. – *Рэд.*) Матусевіча, якая дзейнічала на тэрыторыі Лунінецкага і Ганцавіцкага раёнаў у 1946 – 1948 гадах... Прымаючы актыўны ўдзел у рабаваннях мясцовага насельніцтва, сельпо, леспрамгаса ў вёсцы Вялікія Чучавічы... пры гэтым бандытамі... быў разагнаны агульны сход сялян, які праводзіў старшыня Лунінецкага райвыканкама, захоплена легкавая машына, якую разбілі».

Больш падрабязныя звесткі аб гэтым злачынстве даў адзін з арыштаваных ўдзельнікаў банды. Згодна з яго паказаннямі, Іван Васільевіч Бушыла далучыўся да банды напярэдадні гэтага выпадку, тут яму далі вінтоўку (называецца прозвішча былога гаспадара, які «легалізаваўся»). У Вялікіх Чучавічах яны мелі намер «ісці да магазінаў», але малады хлопец, які выпадкова сустрэўся, паведаміў, «што каля сельсавета начальства з раёна праводзіць мітынг па выкананні хлебанарыхтовак», і падвёў да гэтага месца. Так злачынства з крымінальнага ператварылася ў палітычнае. Пасля выстралаў бандытаў «прадстаўнікі і насельніцтва разбегліся», а яны дасягнулі сваёй мэты: узламалі магазін, забралі «900 метраў рознай мануфактуры... 15 банак згушчонага малака, 1 пуд цукру». Дапытваемы прызнаецца: «Колькі віна ўзялі, не магу сказаць». Далей паведамляецца, што «у канцы 1947 года і пачатку 1948 года ўзброеная банда «главаря» Матусевіча органамі МУС была цалкам ліквідавана, а бандыт Бушыла застаўся, ад арышту схаваўся, «на падставе чаго пастаноўлена яго «падвергнуць арышту, абшукванню і этапаванню ў абласную турму № 1 гор. Пінск».



Як вядома, органам правапарадку зрабіць гэта не ўдалося, пакуль сам вышукваемы не вырашыў скончыць са сваім «нелегальным становішчам» праз 42 гады знаходжання ў лесе.

*Т. КАНАПАЦКАЯ,*
*«Лунінецкія навіны»*

# Аб пошуках падземнай бібліятэкі ў Клімавічах

***Да нядаўняга часу першае ўпамінанне аб горадзе Клімавічы звязвалася з заснаваннем тут у 1626 годзе дамініканскага манастыра. Але за стагоддзі, што мінулі з таго часу, народная памяць не захавала звестак аб тым, што ўяўляў сабою гэты манастыр і дзе ён знаходзіўся.***

***Упершыню аб тым, дзе быў заснаваны ў 1626 г. (або раней) дамініканскі манастыр, у 1914 годзе выказаў сваё меркаванні выкладчык Клімавіцкай гімназіі С. І. Яраслаўцаў у сваёй кнізе «Город Климовичи Могилёвской губернии» (Вільня, 1914 г.). Вось з гэтага часу і бярэ пачатак легенда аб таямнічай бібліятэцы (або архіве) дамініканскага манастыра XVII стагоддзя, якая быццам бы знаходзіцца ў падзямеллі сучаснага горада Клімавічы.***

А справа ў тым, што ў 1897 годзе ў час рамонту Клімавіцкай турмы пад падлогай адной з камер ніжняга паверха ўтварыўся правал. Турэмныя наглядчыкі ўбачылі ў гэтым правале вялікі пакой, каля сцен якога стаялі дубовыя шафы і паліцы з тоўстымі кніжкамі. Па загаду спраўніка правал быў засыпаны і заліты цэментам, прычым шафы з кнігамі засталіся некранутымі. Зацікавіўшыся гэтым, С. І. Яраслаўцаў атрымаў ад Магілёўскага турэмнага інспектара дазвол ускрыць падзямелле ў суседняй камеры. Падняўшы падлогу, даследчыкі выявілі там цагельнае скляпенне, а за ім атынкаваны калідор. З калідора дзверы вялі ў камеру, дзе раней утварыўся правал. Але прабіцца ў тую камеру аказалася немагчыма, бо першапачатковы правал быў забіты зямлёй і заліты цэментам.

У сувязі з тым, што скляпенне і калідор нагадвалі па сваёй будове сучасны Яраслаўцаву касцёл, выкладчык вырашыў, што тут стаяў той самы дамініканскі манастыр, аб месцазнаходжанні якога да таго часу не захавалася ніякіх указанняў.

У сярэдзіне 20-х гадоў мінулага стагоддзя ўспыхнула цікавасць да таямнічай манастырскай бібліятэкі. У сакавіку 1925 года газета «Звязда» нагадала аб той тайне, змясціўшы артыкул М. Гарэцкага «Бібліятэка пад зямлёй». У выніку камісія па ахове помнікаў старажытнасці гісторыка-археалагічнай секцыі Інстытута беларускай культуры даручыла свайму члену І.А. Сербаву праверыць інфармацыю. Раскопкі, праведзеныя даследчыкам у падвалах былой турмы г. Клімавічы ў 1925 годзе, не далі ніякіх навуковых вынікаў. «Карысна адно тое, што пакончана ўцале з адною з так званых «навуковых легенд», – пісаў у тую пару часопіс «Полымя» (1925. № 4. С. 194).

Але з легендай пакончыць вельмі складана. У канцы 1950-х гадоў зноў была здзейснена спроба адшукаць старажытную бібліятэку.

24 сакавіка 1958 года начальнік Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацбудаўніцтва БССР Ільічоў паведамляў начальніку архіўнага ўпраўлення МУС БССР палкоўніку А. І. Азараву: «Вывучаючы літаратуру і перыядычныя выданні мінулых гадоў з мэтай выяўлення матэрыялаў профіля ЦДА Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР, намі выяўлены ў газеце «Звязда» ад 12 сакавіка 1925 г. цікавы артыкул, на які мы звяртаем вашу ўвагу (артыкул прыкладаецца).

У гор. Клімавічы быў дамініканскі манастыр, у далейшым памяшканне якога выкарыстана пад турму. У падвальных памяшканнях будынка захоўвалася бібліятэка манастыра. Імкненне ўзняць гэту бібліятэку не ўвянчалася поспехам. Прашу вашага дазволу на камандзіроўку Сняткова Д. З. з мэтай устанаўлення месца былога манастыра і арганізацыі правядзення раскопак па адшуканні бібліятэкі».

10 мая 1958 года намеснік міністра ўнутраных спраў Беларускай ССР палкоўнік Ляднёў і начальнік архіўнага ўпраўлення МУС БССР палкоўнік Азараў накіравалі пісьмо начальніку Упраўлення ўнутраных спраў выканкама Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных палкоўніку Петушкову. У ім гаварылася: «У Архіўнае ўпраўленне МУС БССР паступілі паведамленні аб тым, што ў 1897 або 1898 гадах у будынку Клімавіцкай турмы ў выніку перасцілкі падлогі адной з камер быў выяўлены падвальны пакой, у якім размяшчаліся вялізныя дубовыя шафы з кнігамі. Згодна загаду спраўніка, не выцягваючы бібліятэку, правал, які ўтварыўся ў камеры, быў засыпаны друзам і заліты цэментам.

Ёсць меркаванне, што на тым месцы, дзе стаяла турма, быў Клімавіцкі дамініканскі манастыр, існаванне якога адносіцца да XVI–XVII ст., і сабраныя ім кнігі могуць уяўляць сабой вялікую гістарычную і літаратурную каштоўнасць.

Для высвятлення верагоднасці ўказаных фактаў і прыняцця мер для выяўлення бібліятэкі, у выпадках пацвярджэння паведамляемых даных, просім камандзіраваць у г. Клімавічы начальніка Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва тав. Шпакава».

Праз пэўны час такая камандзіроўка мела месца, аб чым начальніку Архіўнага ўпраўлення МУС БССР Азараву паведамлялася, што *«пры выездзе ў гор. Клімавічы загадчыка аддзела сакрэтных фондаў Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР тав. Кутузава пры садзейнічанні сакратара РК КПБ тав. Маргелава і начальніка райаддзела міліцыі тав. Лебедзева ўстаноўлена наступнае:*

*1. Старажылы расказваюць, што ў гор. Клімавічы з незапамятнага часу сапраўды існаваў манастыр і што яго памяшканні былі звязаны падземнымі хадамі.*

*2. Апытаны мясцовы жыхар, у мінулым настаўнік Белавусаў Яфім Васільевіч, які паведаміў, што ён асабіста ведаў Яраслаўцава, настаўніка гісторыі Клімавіцкай гімназіі, які займаўся раскопкамі, але аб выніках раскопак яму нічога не вядома.*

*3. Устаноўлена, што ў дарэвалюцыйны час Клімавіцкая турма размяшчалася ў памяшканні, дзе ў цяперашні час размешчаны Клімавіцкі райвыканкам.*

*Пры аглядзе вышэйуказаннага дома выяўлена пры ўваходзе са двара ў калідоры невялікая ніша, закрытая жалезнымі дзвярыма. Мяркуецца, што гэта ніша з'яўлялася калісьці другім ходам у падвал, які ў цяперашні час на глыбіні двух метраў завалены цэглай і зямлёю. З усходняга боку дома ёсць уваход у падвальнае памяшканне, распаўсюджанае толькі на ўсходнюю палову дома. Другая палова – заходняя – ізалявана цаглянай сцяной адносна нядаўняй кладкі, і да яе няма доступу. Сцены падвала, як і усяго дома, цагляныя, падлога бетанаваная. Падвал разбіты на секцыі, якія маюць цагляныя столевыя скляпенні.*

*У мэтах праверкі дастаўернасці факту наяўнасці схаваных падзямельных памяшканняў, у якіх не выключана магчымасць знаходжання якіх-небудзь прадметаў, належала б пры дапамозе кампрэсара з адбойнымі малаткамі даследаваць усю падземную плошчу, якую займае дом, а таксама прабрацца і даследаваць мяркуемыя падземныя хады зносін.*

*Раённы камітэт партыі не супярэчыць аб правядзенні раскопак, кампрэсар у гор. Клімавічы ёсць. Пры прадастаўленні грашовых сродкаў ЦДГА БССР можа ўзяць на сябе правядзенне даследавання падземнай часткі тэрыторыі, займаемай домам райвыканкама, і мяркуемых падземных хадоў».*

Але на гэты раз пытанне ўперлася ў грошы, і капітальнага даследавання і раскопак праведзена не было. А пошук таямнічай падземнай бібліятэкі прадоўжыў настаўнік гісторыі СШ № 2 г. Клімавічы М. М Балтоўскі. У 1964 годзе ён правёў даследаванне падвальнай часткі былой турмы, шукаючы пакой з кнігамі, аб якім пісаў Яраслаўцаў. Падвальныя памяшканні да гэтага часу былі ў асноўным расчышчаны. Пасля дадатковай расчысткі і даследавання было ўстаноўлена, што падвальнае памяшканне мае цца толькі ў правай частцы будынка, калі глядзець з боку фасада, і займае яно прыкладна 25 % ад плошчы дома. Аднак залітай цэментам падлогі пакоя, аб якім піша Яраслаўцаў, знайсці не ўдалося.

У другой палове 1960-х гадоў «бібліятэкай пад зямлёй» зацікавіўся клімавіцкі краязнавец Ф. І. Асмалоўскі. Яму стала вядома, што ў 1924 годзе турма была перабудавана для размяшчэння ў гэтым будынку Акружнога выканкама. Магчыма, што ў гэты перыяд мог быць расчышчаны і той падвальны пакой, дзе пад падлогай знаходзяцца шафы з кнігамі. Таму Ф. І. Асмалоўскі звярнуўся да былога дзесятніка Леончанкі Аляксея Мітрафанавіча, які прымаў удзел ў перабудове турмы. Апошні паведаміў, што ні ён сам, ні інжынер Саракалетаў, ні тэхнік Трупаў (якія к таму часу ужо памерлі) нічога аб падвальным пакоі з кнігамі не ведалі. Пры перабудове ад турмы засталіся толькі сцены, падлога ды столь. Дах і ўсё іншае прыйшло ў непрыгоднасць. Падвальнае памяшканне было вызвалена ад смецця, але Леончанка не памятаў, каб там быў участак падлогі, засыпаны друзам і заліты цэментам.

***Такім чынам, і гэта дадатковае даследаванне не ўвянчалася поспехам. А версія існавання пад зямлёй бібліятэкі былога Клімавіцкага дамініканскага манастыра працягвае жыць.***

***Міхась ДУКТАЎ,***
***Клімавіцкі раён***





*У дапамогу экскурсаводу*

# Радашкавічы*

Ландшафт мястэчка фарміруюць вертыкалі вежаў касцёла і трубаў аб'яднання "Белмастацкераміка". Спускаемся з боку Пятрышак да моста праз рэчку Гуйку. Злева бачым стромкі абрыў берага вышынёй 8 – 10 м, заняты агародам дома № 14 па вул. Заслаўскай – месца старадаўняга гарадзішча (1). Ягоная пляцоўка разарана, знойдзена кераміка V–VIII і XII–XIII стагоддзяў. Потым паселішча было перанесена на процілеглы бераг Гуйкі, дзе быў заснаваны замак (гл. ніжэй).

Справа за мостам знаходзяцца старыя могілкі (2), якія маюць значную мастацка-гістарычную каштоўнасць. У цэнтры могілак на пагорачку бачны руіны муравання фамільнай капліцы-склепа (3) Валадковічаў – колішніх гаспадароў радашкаўскіх ваколіц (Новы Двор, Кальзбэргі інш.). Ад капліцы захаваліся толькі сцены.

Паўднёвая частка могілак праваслаўная. Тут каля капліцы – надмагільны камень Мікалаю Іванавічу Чарняўскаму (4) (1883 – 1926) – беларускаму педагогу і грамадскаму дзеячу, выкладчыку фізікі Радашкаўскай беларускай гімназіі. Пры ўваходзе на могілкі з боку вул. Савецкай – магіла Веры Андрэеўны Ніжанкоўскай (5) (1901 – 1998), у дзявоцтве Сніткі (гл. ніжэй), першым мужам якое быў беларускі грамадскі дзеяч Браніслаў Тарашкевіч, якому яна актыўна дапамагала. В. А. Ніжанкоўская пахавана побач з яе другім мужам Уладзіславам Ніжанкоўскім (6) (1904 – 1943) і маці гаспадара сядзібы Мігаўка Аляксандра Уласава Аленай Адамаўнай Уласавай (7) (1844 – 1908). А. Уласаў быў дзядзькам Веры Андрэеўны – ён родны брат яе маці Лізаветы Мікітаўны Уласавай (8) (1867 – 1954), пахаванай побач. Тут і сімвалічная магіла сына Веры Андрэеўны і Браніслава Тарашкевіча – Славіка (9) (1925 – 1944), які партызанам загінуў каля возера Палік, а таксама магілы сясцёр А. Уласава Кацярынкі і Марусі Уласавых (10), памерлых у 1892 годзе дзецьмі.

Паўночная частка могілак каталіцкая. Тут побач з капліцай пахаваны Аляксандр Тышынскі (11) (1811–1880) – польскі літаратуразнавец, крытык, празаік, гаспадар маёнтка Мясата каля Маладзечна – і ягоная жонка Феліцыя, у дзявоцтве Фрыбес (+ 1904, пражыла 72 гады). Крыху далей прыцягвае ўвагу скульптура Дзевы Марыі, якая смуткуе, – надмагілле Анэлі Чаховіч (12), у дзявоцтве Арамовіч – жонкі ўдзельніка паўстання 1863 года Зыгмунта Чаховіча, гаспадара маёнтка Малыя Бясяды (цяпер Лагойскі р-н). Побач – магіла іх сына Мечыслава Чахсвіча (13) (1860 – 1904). Па левы бок ад Чаховічаў – магіла Станіслава Замбжыцкага (14) (+ 1908, пражыў 84 гады) і яго жонкі Алімпіі, у дзявоцтве Чакалоўскай (+ 1902, пражыла 70 гадоў) – уладальнікаў фальварка Вязынка, дзе нарадзіўся Янка Купала. Каля другога ўваходу з боку вул. Савецкай – вялікі крыж і шэраг малых цэментавых крыжоў на магілах польскіх легіянераў 1919 –1920 (15), загінулых пад Радашкавічамі ў баях з бальшавікамі. Адразу за першым уваходам на могілкі з боку вул. Савецкай – магіла Фелікса Вольскага (16) (1906 – 1988) – удзельніка беларускага руху, вучня Радашкаўскай беларускай гімназіі, які потым працаваў каморнікам у Радашкавічах. На помніку надпіс па-польску.

Па вул. Савецкай рухаемся ў бок цэнтра мястэчка. Перад аптэкай усталяваны мемарыяльны камень Ядвігіну Ш. (17) (сапр. Антон Лявіцкі, 1868 – 1922) – беларускаму пісьменніку і палітычнаму дзеячу. У Радашкавічах ён з 1891 года працаваў аптэкарам (тады аптэка была ў пачатку Дубраўскай вуліцы, каля цяперашняй вадацяжнай вежы) і загадчыкам кааперацыйнай крамы. Тут Ядвігін Ш. напісаў драму "Злодзей", ажаніўся. У 1897 пераехаў у бацькоўскую сядзібу Карпілаўка пры Даўгінаўскім тракце. Камень Ядвігіну Ш. усталёўлены ў 1978 да яго юбілею.

На скрыжаванні вуліц Заслаўскай і Бурдзенюка знаходзіцца касцёл святой Тройцы (18), заснаваны ў 1447 годзе (гэты год лічыцца годам заснавання мястэчка) і перабудаваны з драўлянага ў мураваны ў 1855 –1859 гадах. Мае рысы барока і класіцызму, двухвежавы. У пасляваенны час храм быў перароблены ў цэх аб'яднання "Белмастацкераміка", толькі ў сярэдзіне 1990-х аддадзены вернікам, але цагляная агароджа акаляе яго і цяпер. Праход да храма – праз браму з пайкалонамі. У касцёле ахрышчаны Янка Купала (12.07.1882, хросная маці была Алімпія Замбжыцкая – гаспадыня Вязынкі), вянчаліся Ян Баляслаў Луцкевіч з Софʼяй Лычкоўскай (02.03.1880). Іх сыны Ян і Антон сталі вядомымі беларускімі палітыкамі. У касцёле працавалі ксяндзы-беларусы Я. Вольскі (1910), В. Гадлеўскі (1917), А. Аўгустыновіч (1918).




Тэрыторыю побач з касцёлам займае аб'яднанне "Белмастацкераміка". У яго галоўным будынку па вул. Савецкай знаходзіцца фірменная крама (19), дзе прадаецца прадукцыя аб'яднання. Крама працуе з 9 да 13 і з 14 да 18 гадзін па будніх днях, з 9 да 14 гадзін па суботах. У старым корпусе аб'яднання размешчаны музей "Белмастацкерамікі" (20) з багатай экспазіцыяй узораў прадукцыі за ўсю гісторыю існавання прадпрыемства (з 1974). Тэлефон аддзела збыту – (01773) 95157, час працы – з 8 да 12 і з 13 да 17 гадзін па будніх днях.

Ад невялікай плошчы ўгору ідзе вуліца Полацкая, па правы бок якой на пагорку стаіць драўляная Ільінская царква (21), узведзеная ў 1943 годзе з будынка казармы былой сапежскай заставы з в. Чыровічы. У 1941 годзе ў пачатку вайны ўсё мястэчка Радашкавічы згарэла разам з мураванай Пакроўскай царквой, што стаяла на рынку ў цэнтры на месцы цяперашняга кінатэатра "Купалінка". Першая згадка пра царкву ў Радашкавічах датуецца 1451 годам. Мураваны будынак царквы на рынку ўзведзены ў 1852 годзе, у ёй у 1866 –1872 гадах дыяканам працаваў этнограф, фалькларыст і настаўнік Аляксандр Троіцкі (1844–1887) – аўтар цыкла этнаграфічных нарысаў. У часы акупацыі замест згарэлай царквы была ўзведзена Ільінская, якая існуе і цяпер.

Прайшоўшы далей па вул. Полацкай праз масток, збочым налева, дзе на пагорку правага берага Гуйкі захаваліся старыя габрэйскія могілкі (22) з надмагільнымі камянямі (з могілак адкрываецца цудоўная панарама мястэчка). Калі ад мастка збочым направа ў зав. Чырвонаармейскі, то за домам № 11 убачым сціплы абеліск, пастаўлены ў 1947 годзе на магіле габрэяў (23), расстраляных тут фашыстамі 11 сакавіка 1942 года, з надпісамі па-руску і на ідышы. Узняўшыся па вул. Полацкай, дойдзем да ўскраіны мястэчка, якая завецца Шведскай горкай (24). У 1708 годзе ў час Паўночнай вайны шведскі кароль Карл XII стаяў на гэтым месцы са сваім войскам 11 дзён. Сюды да яго прыязджаў Станіслаў Ляшчынскі – кароль Рэчы Паспалітай, стаўленік шведаў. У народзе захавалася паданне, што са шведамі ваявала тут царыца Кацярына. Яна паставіла на гэтай гары драўляныя фігуры салдат. Шведы спужаліся і адышлі.

Вернемся на вул. Савецкую і рушым у бок аўтастанцыі. На месцы дома № 5 тут да вайны стаяў будынак (25) былой габрэйскай школы, у якім у 1922 годзе пачала працаваць Радашкаўская беларуская гімназія імя Скарыны, заснаваная па ініцыятыве А. Уласава (жыў у суседняй Мігаўцы, дзе пабываем іншым разам). Неўзабаве гімназія была пераведзена ў другі дом, які стаяў на рагу вуліцы Менскай (цяпер Савецкая) і Касцёльнай плошчы (дом не захаваўся, цяпер гэта тэрыторыя "Белмастацкерамікі"). Беларуская гімназія дзейнічала да 1928 года, пакуль не была зачынена палякамі. У ёй працавалі Тодар Вернікоўскі, Язэп Драздовіч, Язэп Гаўрылік, Сымон Кароль, Макар Краўцоў і інш. Яе дырэктарамі былі Аляксандр Вернікоўскі і Фэлікс Стацкевіч. Вучнямі – Мікола Абрамчык, Максім Танк, Мар'ян Пецюкевіч, Алесь Міпоць... У доме № 1 па вул. Савецкай пасля вайны размяшчалася сярэдняя школа (26), у якой у 1948 – 1951 гадах працаваў настаўнікам Фёдар Янкоўскі. Ён разам з першым дырэктарам школы, ветэранам вайны Міколам Рамановскім пасадзіў сад каля школы. Тады ж у гэтай школе вучылася Валянціна Браніславаўна Нікіціна, будучая жонка У. Караткевіча. Цяпер гэты будынак займае музычная школа.

За кінатэатрам "Купалінка" пачынаецца вул. Б. Тарашкевіча. Дом № 8 на ёй размешчаны на пагорку былога замчышча (27), вядомага паводле попісу XVI стагоддзя. Падэшва гары перад домам эрэзана, там бачны камяні і цэгла падмуркаў крэпасці, сцены і 5 вежаў якой былі драўлянымі. Тэрыторыя замка, размешчанага ў міжрэччы Гуйкі і Вязынкі, з усіх бакоў была абкружана вадой.

Далей на стыку вуліц Б. Тарашкевіча і М. Горкага захаваліся глінабітныя свіран і ток (28) на каменным падмурку – рэшткі гаспадарча-вытворчага комплекса "Двор Радашкавічы", які існаваў з XVI ст. і куды ўваходзілі таксама жылы дом, лазня, бровар, кухня, пякарня, вазоўня (апошняя разбурана зусім нядаўна). На мяжы XIX–XX стагоддзяў уладальнік сядзібы Кальзбэрг А. Снітка заснаваў тут гаспадарчы двор-"ферму". На гэтай тэрыторыі знаходзіцца і мемарыяльны дом Браніслава Тарашкевіча (29) (вул. Б. Тарашкевіча, 16), пабудаваны ў 1922 – 1924 гадах Сніткамі. Тарашкевічы жылі тут у 1923 – 1931 гадах. У гэтым доме бывалі С. Рак-Міхайлоўскі, І. Дварчанін, Я. Гаўрылік, Я. Драздовіч, настаўнікі і вучні беларускай гімназіі. Цяпер дом выкарыстоўваецца як жылы. Мемарыяльная пліта на ім устаноўлена ў 1972 годзе. Даўно вядзецца размова пра стварэнне ў мемарыяльным доме музея беларускага вызвалення руху.

Вяртаемся да цэнтра мястэчка, пераходзім канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы (створана ў 1976 годзе, прайшла праз былы цэнтр мястэчка), выходзім на плошчу Гастэлы (была адміністрацыйнай, асабліва калі ў 1940 – 1960 гадах Радашкавічы былі райцэнтрам). На плошчы ў скверы – помнік М. Гастэлу (30) (скульптар З. Азгур) на месцы пахавання экіпажа А. С. Маслава (раней лічылася, што тут пахаваны экіпаж Гастэлы). У двухпавярховым мураваным доме № 1 па вул. Віленскай быў інтэрнат беларускай гімназіі (31), адкрыты па ініцыятыве А. Уласава з дапамогай метадыстаў з Варшавы. Цяпер гэты дом жылы. У доме № 11 па вул. Віленскай знаходзіцца малітоўны дом Хрысціян Веры Евангельскай (32).

Тэрыторыю паміж вуліцамі Гастэлы і Чарнышэвіча займае школа-інтэрнат. У кутку яе двара знаходзіцца абеліск (як і ў зав. Чырвонаармейскім) на магіле габрэяў (33), расстраляных тут 11 сакавіка 1943 года. Перад уваходам у школу ўстаноўлены бюст М. Гастэлы (34) (1976, скульптар А. Анікейчык), а ў школе створаны музей (35), прысвечаны подзвігу экіпажа Гастэлы і іншых герояў-лётчыкаў Другой сусветнай вайны. Тэлефоны інтэрната: (01773) 95452 – намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце, (01773) 95269 – намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце.

Вуліца Чарнышэвіча названа ў гонар беларускага пісьменніка Аркадзя Змітравіча Чарнышэвіча (1912–1967), які жыў у доме № 4 на гэтай вуліцы. Мемарыяльная пліта (36) на ім устаноўлена ў 1977 годзе.

Пры выездзе з Радашкавічаў у бок Аляхновічаў каля пасёлковага Савета і Дома культуры пастаўлены бюст Янку Купалу (37) (1982, скульптар А. Глебаў). Купала неаднойчы бываў у мястэчку. Восенню 1903 года ён некалькі тыдняў працаваў пісарам у Радашкавічах, але з-за дрэннага почырку быў звольнены. 15 жніўня 1913 года тут была пастаўлена "Паўлінка", на спектаклі прысутнічаў Купала са сваякамі. Ставілася п'еса і драмгуртком беларускай гімназіі ў інтэрнаце (вул. Віленская, 1). Да 1982 года бюст Купалы ў Радашкавічах (1957, скульптары Л. і М. Роберман), зроблены на сродкі жонкі паэта У. Ф. Луцэвіч, стаяў насупраць "Белмастацкерамікі" на скрыжаванні вуліц Савецкай і Полацкай. Месца звалася "Купалавым скверам". У 1982 годзе па загаду пэўных структур бюст быў зняты і ўтоплены ў Гуйцы, але месца помніка бачна і сёння.

На шашы Мінск – Маладзечна ўезд у мястэчка адзначаны мемарыялам экіпажу М. Гастэлы (38) (1976, скульптар А. Анікейчык, архітэктары Л. Левін, Ю. Градаў). Цэнтр мемарыялу – абеліск на ўзгорку. Дарога да ўзгорка, выкладзеная камянямі і засыпаная жвірам, каля абеліска звужаецца. На дарозе – схематычныя выявы крылаў чатырох птушак з прозвішчамі членаў экіпажа – Гастэлы, Бурдзенюка, Скарабагатага, Калініна. Абеліск нахілены да дарогі і завершаны бюстам камандзіра экіпажа. Каля асновы ўзгорка ўстаноўлены два валуны і блок са словамі "26 чэрвеня 1941 года тут здзейсніў подзвіг экіпаж Героя Савецкага Саюза Мікалая Гастэлы".

У канцы чэрвеня 1941 года пры бамбардзіроўках шашы каля Радашкавічаў загінула некалькі экіпажаў лётчыкаў. Сярод іх – экіпажы старшага лейтэнанта І. З. Прэсайзэна (магіла за 2 км на ўсход ад Радашкавічаў каля дарогі на Рогава), капітана А. С. Маслава (загінуў каля Дзякшнянаў, лічылася, што гэта быў экіпаж капітана Гастэлы; сапраўдныя прозвішчы былі ўстаноўлены ў 1951 годзе, але ўвекавечаны быў менавіта Гастэла, бо яму аднаму з першых было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза), а самалёт Гастэлы, напэўна, быў збіты і разбіўся паміж вёскамі Мацкі і Меркавічы (Лагойскі р-н, магіла загінулых лётчыкаў ёсць у в. Бяларучы Лагойскага р-на).

***Ігар ГАТАЛЬСКІ***

* Мясцовая назва. Афіцыйная – Радашковічы. – *Рэд.*





# Здраднік ці патрыёт?

***Прадузятасць – вельмі небяспечная з'ява. Асабліва калі яна праяўляецца ў гісторыкаў ці літаратараў. Калі ўжо адны ці другія ствараць нейкі стэрэатып, то змяніць яго бывае вельмі цяжка. Сярод ахвяр такога стэрэатыпу ёсць і нашы землякі. Аднаго з іх, Януша Радзівіла, малююць толькі чорнымі фарбамі і польскія, і большасць айчынных даследчыкаў. Асабліва ж зняславілі яго з-за рамана таленавітага польскага пісьменніка Г. Сянкевіча «Патоп» і фільма, пастаўленага паводле гэтага рамана. Калі прыгадваеш яго імя, то амаль заўсёды чуеш: «А, Януш-здраднік!» І ў дадатак шэраг эпітэтаў. А ўсё таму, што менавіта здраднікам паказаў яго польскі пісьменнік Сянкевіч. «Януш-здраднік» – так называюць Януша Радзівіла большасць польскіх гісторыкаў. Магчыма, з іх пункту гледжання ён і быў здраднікам. А з нашага?***

Нарадзіўся Януш у 1612 годзе. Бацька яго, Крыштаф Радзівіл, займаў пасады віленскага ваяводы і гетмана Вялікага княства Літоўскага. Дзяцінства прайшло ў радавых маёнтках – Кейданах, Біржах, Віжунах. Яно было такім жа, як і ў большасці дзяцей магнатаў. Адметным сталася хіба толькі тое, што хатнім настаўнікам хлопчыка быў выкладчык кальвінісцкай школы. Справа ў тым, што бацька яго паходзіў з біржанскай лініі Радзівілаў. А прадстаўнікі гэтага адгалінавання магутнага роду захавалі вернасць тым рэлігійным поглядам, якіх прытрымліваўся і за якія вёў барацьбу іх прашчур Мікалай Руды.

У 1624 годзе Януша накіравалі ў слуцкую гімназію. А яшчэ праз тры гады ён паехаў удасканальваць свае веды за мяжу. Вучыўся напачатку ў Германіі, а потым у Галандыі. Трэба заўважыць, што юнака цікавілі не толькі лекцыі універсітэцкіх выкладчыкаў. Ён шмат падарожнічаў, пабываў таксама ў Англіі, Бельгіі і Францыі. За гэты час выканаў некалькі асабістых даручэнняў караля, і так удала, што ў 1622 годзе атрымаў пасаду падкаморага Вялікага княства Літоўскага. Якраз у гэты час Януш сабраўся дадому. Разам з ім рушылі нанятыя тысяча пешых і дзвесце конных воінаў. Да гэтага войска ён далучыў некалькіх артылерыстаў і ваенных інжынераў. З уласнай «узброенай сілай» юнак прыбыў на радзіму і адразу ж накіраваўся пад Смаленск. Гэты горад яшчэ з вясны спрабавалі захапіць маскоўскія войскі ваяводы Шэіна. Януш прыбыў пад Смаленск у кастрычніку і прыняў актыўны ўдзел у барацьбе. Маскоўскія войскі цярпелі адно паражэнне за другім. Нарэшце ў канцы 1633 года на тэатры ваенных дзеянняў з'явіўся кароль Уладзіслаў з вялікім войскам, а 16 лютага 1634 года Шэін склаў зброю. У чэрвені быў падпісаны мірны дагавор, згодна з якім пацвярджаліся правы пераможцаў на валоданне смаленскімі, чарнігаўскімі і ноўгарад-северскімі землямі.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняўЯнуш нейкі час пабыў у Вільні, а потым паехаў у Кракаў, дзе ўзяўся выконваць абавязкі падкаморага пры двары караля. У гэты час па-сапраўднаму раскрыўся характар нашага земляка. Даследчыкі як адзін сцвярджаюць, што Януш вызначаўся гарачнасцю і ўпартасцю. Справа ў тым, што каралеўскі ўрад пастаянна парушаў умовы, на якіх кіраўнікі Вялікага княства пайшлі на заключэнне Люблінскай уніі. Пагадненне аб ваеннай узаемадапамозе існавала фактычна толькі на словах. Польскія магнаты, ды і каралі, глядзелі на землі княства як на свае асабістыя ўладанні і імкнуліся распараджацца ў іх, як у сваёй вотчыне. Гонар не дазваляў Янушу ўтойваць свае пачуцці. Ён ніколі не хаваў іх і адкрыта праяўляў свае настроі. І аднойчы адбыўся выбух...

У час пасяджэння рады сената княства, якое праходзіла ў Вільні, паміж гетманам Вялікага княства Літоўскага Крыштафам Радзівілам (бацькам Януша) і каралём Уладзіславам узнікла спрэчка. Гетман указваў на недапушчальнасць парушэння ўмоў пагаднення, на тое, што сенат княства сам можа вырашыць свае праблемы, што каралю няма неабходнасці ўмешвацца ў іх дзеянні. Уладзіслава «прыперлі да сцяны» фактамі. Ён не змог даказаць сваю праўду. І тады... перапыніў раду.



Януш, які ў якасці члена світы караля прысутнічаў пры гэтым, быў абражаны не менш за іншых. Ён уголас выказаў свае меркаванні: «Пачакайце, прыйдуць часы, калі мы вас не праз дзверы, а праз вокны будзем выкідваць». Зразумела, якія пачуцці выклікалі гэтыя словы ў палякаў. Яны ледзь не хорам пачалі патрабаваць, каб Януш адмовіўся ад сваіх слоў і папрасіў прабачэння. Запатрабаваў гэтага і кароль. Але наш зямляк наадрэз адмовіўся.

Паціху справу замялі. Кароль Уладзіслаў вымушаны быў лічыцца з магутным і ўплывовым родам Радзівілаў. Януш застаўся ў яго свіце. Больш таго – кароль называў яго сваім сябрам, пастаянна браў з сабой на паляванне, у паездкі, нават дзяліўся сваімі «амурнымі» сакрэтамі.

У 1638 годзе Януш вырашыў ажаніцца. Яго абранніца паходзіла з польскага магнацкага роду Патоцкіх. Крыштаф быў вельмі незадаволены выбарам сына. Асабліва не падабалася яму тое, што будучая нявестка славілася як ваяўнічая каталічка. Ён неаднаразова папярэджваў сына, што той яшчэ набядуецца. Але закаханы Януш настаяў на сваім. Жонка ж з першага дня пачала дабівацца, каб ён перайшоў у «лона адзінай роўнаапостальнай каталіцкай царквы». Асабліва ўзмацніла яна свае дамаганні пасля таго, як у 1640 годзе памёр свёкар. Януш адбіваўся ад гэтых захадаў, але сякія-такія з патрабаванняў жонкі выканаў. Напрыклад, замяніў усіх сваіх слуг, якія былі кальвіністамі, на католікаў. Хто ведае, можа, «слабая жанчына», ці, як кажуць, «начная зязюля», урэшце і дабілася б свайго. Чаго-чаго, а настойлівасці ў Катажыны хапала. Тым больш, што ў гэтай справе ў яе было шмат памагатых. І Уладзіслаў, і шматлікія сябры-палякі, і тыя з «літвінаў», хто сам быў католікам. Але ў 1642 годзе Катажына памерла.

Праз пэўны час Януш нагледзеў нявесту ў больш далёкіх землях – у Малдавіі. У тамтэйшага гаспадара (князя) Базыля Лунула было дзве дачкі. Наш зямляк пасватаўся да старэйшай – Марыі. Базыль нічога супраць не меў. Наадварот, яго вельмі ўзрадавала магчымасць парадніцца з Радзівіламі. Задаволены быў і Уладзіслаў. Ён якраз вёў падрыхтоўку да вайны з Турцыяй і шукаў саюзнікаў. Праўда, каралю вельмі не падабалася, што нявеста праваслаўная, але што ён мог зрабіць? Януша ж апошняя акалічнасць толькі радавала: ваяўнічы каталіцызм ужо сядзеў у яго «ў пячонках».

У 1646 годзе Януш Радзівіл атрымаў пасаду гетмана польнага літоўскага. У тым жа годзе па просьбе (заўважце – не па загаду) караля выехаў у вандроўку. Пабываў у свайго цесця. Адтуль накіраваўся ў Семіград, дзе гасцяваў у трансільванскага князя Юрыя І Ракочы. І з тым, і з другім была заключана дамоўленасць аб сумесных дзеяннях супраць Турцыі. У падзяку за гэты паспяховы вояж кароль даў Янушу пасаду маршалка трыбунала літоўскага.

Якраз у гэты час на паўднёва-ўсходніх землях Рэчы Паспалітай (на Украіне) успыхнула паўстанне, на чале якога стаў Зіновій (Багдан) Хмяльніцкі. На падаўленне яго Уладзіслаў IV паслаў войскі. 16 мая 1648 года пад Корсунем паміж імі і паўстаўшымі казакамі адбылася бітва. Казакі ўшчэнт разграмілі каралеўскае войска. У палон да іх трапілі нават гетманы каронныя Патоцкі і Каліноўскі. Пасля гэтай перамогі полымя паўстання ахапіла ўсю Украіну. Запалалі кляштары і маёнткі. Польскія паны кідалі ўсё і збягалі ў Польшчу. У гэты цяжкі момант Рэч Паспалітая апынулася без галоўнакамандуючага. Януш па праву разлічваў на гэтую пасаду. Але нечакана памёр Уладзіслаў IV. Становішча Радзівіла адразу пагоршылася. Як бы там ні было, а нябожчык усё ж такі падтрымліваў яго. А зараз гэтай падтрымкі не стала. Вынікі адчуліся амаль адразу. На сойме, які адбыўся ў ліпені таго ж, 1648, года ў Варшаве, Януш вылучыў сваю кандыдатуру на пасаду гетмана кароннага. Але яму прыгадалі колішнія словы аб палякаў, якіх будуць «выкідваць... праз вокны». Зразумела, што пасля гэтага на гетманскую булаву разлічваць было нельга.

А тым часам паўстанне на Украіне перарасло ў вайну. Яна ахоплівала ўсё новыя і новыя тэрыторыі. Яе іскры ўспыхнулі на Беларусі і нават у самой Польшчы.

Шляхту ж Рэчы Паспалітай больш займала іншая «хвароба» – яна выбірала новага караля. Меліся два прэтэндэнты – браты нябожчыка Уладзіслава Карл Фердынанд і Ян Казімір. Першы з іх быў езуітам і прызнаваў толькі адну рэлігію – каталіцызм. Ужо з-за гэтага ён быў шмат каму недаспадобы. Яна Казіміра амаль не ведалі, бо ён жыў за мяжой. І ў кожнага з іх былі прыхільнікі. Па ўсёй дзяржаве праходзілі соймы і соймікі, пляліся інтрыгі, купляліся галасы... Урэшце пераможцам выйшаў Ян Казімір, за якога, дарэчы, падаў свой голас Януш Радзівіл, і нават... Багдан Хмяльніцкі. Злыя языкі даводзілі пазней, што менавіта страх перад украінскім гетманам прымусіў шляхту галасаваць за гэтага прэтэндэнта. Януша ж перадвыбарныя падзеі ўжо мала хвалявалі. У яго галаве спеў новы план – аб'ядначца з Багданам Хмяльніцкім і сумесна разарваць путы, якія звязваюць іх землі з Польшчай. Ён пасылае на Украіну надзейных людзей. Але адказу няма. Радзівіл цудоўна разумеў, што ў палітыцы паважаюць толькі моцнага. Ён вырашае паказаць сваю сілу і кідае войска на паўстанцаў, якія фактычна авалодалі ўсім поўднем Беларусі. Яго армія на пачатку 1649 года адбівае Пінск, Мазыр, Бабруйск і шэраг іншых гарадоў. Януш вырашыў запалохаць ворагаў. Для гэтага загадаў пасадзіць захопленых у палон кіраўнікоў паўстання на палю, а яшчэ 270 казакам адсекчы правую руку і адпусціць на волю.

У той час ён мог з лёгкасцю ачысціць ад паўстанцаў усю тэрыторыю княства. Але не пажадаў. Адвёў войска. Сам пасяліўся ў маёнтку пад Вільняй і зноў пачаў перапісвацца з Хмяльніцкім і блізкімі да яго людзьмі. Піша ён і да трансільванскага князя, і ў Малдавію да цесця. Прапанова ў яго ўсё тая ж – аб'яднаць намаганні і ўдарыць па Польшчы. Але адказаў зноў няма.

Тады Радзівіл вырашае яшчэ раз паказаць сваю моц. Ён са шматтысячным войскам выступае на Кіеў. Багдан Хмяльніцкі пасылае супраць яго аднаго з лепшых сваіх паплечнікаў – Міхала Крычэўскага з пятнаццацітысячным войскам. У дарозе яно абрастае паўстаўшымі сялянамі. У момант сустрэчы з Радзівілам Крычэўскі меў пад сваім кіраўніцтвам трыццацітысячнае войска. Але ў бітве, якая адбылася 31 ліпеня 1649 года пад Лоевам, паўстанцы былі разбіты. Паранены Крычэўскі трапіў у палон і скончыў жыццё самагубствам. Дарога на Кіеў адкрылася зноў. Але Януш усё яшчэ спадзяецца дамовіцца з Хмяльніцкім. Да таго ж ён не жадае «рабіць усю справу за палякаў». Таму заяўляе, што войску не хапае пораху і куляў і адводзіць яго ў Рэчыцу.

ў маёнтак пад Вільняй.

*(Заканчэнне будзе.)*

***Мікола БАГАДЗЯЖ,***
***гісторык***

## Казахскі гісторык – родам з Беларусі?

Сярод іншых нашых землякоў, хто добрымі справамі іншую старонку ўславіў, – Геранім Восіпавіч Пацэвіч. Сёлета яго 110-гадовы юбілей (нарадзіўся адпаведна ў 1893 годзе). Нарадзіўся ў беларускай вёсцы Шатрова. А вось дзе дакладна – невядома. Дзе ж тое Шатрова?.. Мо, памылка ў напісанні назвы?..

А што да біяграфіі Пацэвіча ў стасунках з Казахстанам, то вядома, што выпускнік Маскоўскага археалагічнага інстытута ў 1934–1938 гадах працаваў вучоным сакратаром Цэнтральнага музея Казахстана. У чэрвені 1945 года нашага земляка прызначаюць навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Акадэміі навук Казахскай ССР. Амаль дзесяць гадоў Геранім Восіпавіч – у складзе гэтай навуковай установы. У 1954 годзе абараняе дысертацыю (у 61 год! Відаць, не такім ужо простым быў лёс ураджэнца вёскі Шатрова) па тэме «Гістарычная тапаграфія гарадоў і паселішч поўдня Казахстана (VII–XV ст.)». У 1959 годзе Пацэвіч удзельнічаў у даследаваннях Шардарынскага вадасховішча. Усяго наш зямляк надрукаваў каля 50 навуковых прац, якія прысвечаны тапаграфіі, архітэктуры, будаўнічай справе, гаспадарцы і побыту ў старажытных паселішчах Казахстана.

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

**Ад рэдакцыі.** Перайменаванні ды пераладжванні назваў паселішчаў – вялікая праблема, калі неабходна ўстанавіць дакладанае месца падзеяў даўніны. Гісторыя з радзімаю Г. Пацэвіча – яскравае таму пацвярджэнне. Пачнем жа з таго, што ў Верхнядзвінскім раёне ёсць вёска, якую жыхары заўсёды называюць Шатрова. Афіцыйна ж яна па ўсіх даведніках фігуруе як Шайцерава. Калі, чаму, дзеля чаго адбылося перайменаванне? Пытанне ў гэтым выпадку (і падобных) не рытарычнае. Такім чынам, месца нараджэння казахскага навукоўца – над Дзвіною, на Верхнядзвіншчыне? Пытанне амаль высветленае, хаця варта, каб тамтэйшыя краязнаўцы ўдакладнілі.

# Студзень

17 – **Якімовіч Алесь** (Аляксандр Іванавіч; 1904, Уздз. р-н – 1979), пісьменнік, адзін з заснавальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1974 г.) – 100 гадоў з дня нараджэння.

20 – **Сянкевіч Аляксандр Антонавіч** (1884, Стаўбц. р-н – 1938), дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР, вучоны, пісьменнік, публіцыст – 120 гадоў з дня нараджэння.

24 – **Шутовіч Янка** (Іван Іосіфавіч; 1904, Смаргон. р-н – 1973), публіцыст, выдавец, грамадскі і культурны дзеяч – 100 гадоў з дня нараджэння.

25 – **Адынец Антон Эдвард** (1804, Ашмян. р-н – 1885), польскі паэт, перакладчык, мемуарыст, выдавец – 200 гадоў з дня нараджэння.

29 – **Луцкевіч Антон Іванавіч** (1884–1946 (?)), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, літаратурны крытык, публіцыст, лінгвіст – 120 гадоў з дня нараджэння.

31 – **Грыцкевіч Анатоль Пятровіч** (1929, Мінск), вучоны-гісторык – 75 гадоў з дня нараджэння.

## У 2004 годзе спаўняецца:

**Навагрудскі школьны тэатр** (1624–1761) – 380 гадоў з пачатку існавання.

**Тылкоўскі Войцех** (1624–1695), філосаф, тэолаг, прафесар Віленскай акадэміі – 380 гадоў з дня нараджэння.

**Сіміон Полацкі** (сапр. Пятроўскі–Сітніяновіч Самуіл Емяльянавіч, паводле інш. звестак – Гаўрылавіч; 1629, Полацк – 1680), беларускі і рускі пісьменнік, перакладчык, драматург, філосаф-асветнік, педагог, тэолаг, грамадскі і царкоўны дзеяч – 375 гадоў з дня нараджэння.

**Бешанковічы**, г.п. (1634) – 370 гадоў з часу атрымання магдэбургскага права.

**Міхайлаў Клім** (каля 1634 – пасля 1685), разьбяр па дрэве, майстар беларускай разьбы, паходзіў са Шклова – 370 гадоў з дня нараджэння.

**Мсціслаў**, г. (1634) – 370 гадоў з часу атрымання магдэбургскага права і герба.

**Чавусы**, г. (1634) – 370 гадоў з часу атрымання магдэбургскага права.

**Кемелішкі**, в. (Астрав. р-н; 1644) – 360 гадоў з часу першага ўпамінання.

**Дзягілевіч Уладзіслаў** (каля 1674, Беларусь – 1714), архітэктар, які працаваў у Оршы, Нясвіжы, Мсціславе, – 330 гадоў з дня нараджэння.

**Нясвіжская капэла Радзівілаў**, прыдворны аркестр (1724–1809) – 280 гадоў з часу заснавання.

**Пінская друкарня** (1729(?) – 1746(?)) – 275 гадоў з пачатку існавання.

**Грушэцкі Антон Антонавіч** (1734–1798), беларускі і польскі жывапісец – 270 гадоў з дня нараджэння.

**Слонімскі школьны тэатр** (1744–1769) – 260 гадоў з пачатку існавання.

**Карніцкая** (па мужу і сцэнічнае прозвішча Дырэнталь) **Магдалена** (каля 1764, Паставы – ?), танцоўшчыца – 240 гадоў з дня нараджэння.

**Гродзенская музычна-тэатральная школа Тызенгаўза** (1774–1785) – 230 гадоў з пачатку існавання.

**Магілёўская друкарня** (Магілёўская кансісторская друкарня, Магілёўская прыдворная друкарня; 1774–1844) – 230 гадоў з пачатку дзейнасці.

**Краснаполле**, г.п. (1784) – 220 гадоў з часу першага ўпамінання.

**Хршчановіч Казімір Мельхіёравіч** (1794–1871), архітэктар, аўтар шматлікіх праектаў забудовы Мінска – 210 гадоў з дня нараджэння.

**Азарэвіч Марыя Апалонаўна** (па сцэне Азарэвіч 2-я; 1804–1888), расійская актрыса беларускага паходжання – 200 гадоў з дня нараджэння.

**Азямблоўскі Юзаф** (каля 1804, Мінск – 1878), графік – 200 гадоў з дня нараджэння.

**Гарбачэўскі Мікіта Іванавіч** (1804, Магілёўс. губ. 1879), вучоны-архівіст, краязнавец, мовазнавец, педагог – 200 гадоў з дня нараджэння.

**Гашкевіч Іосіф Антонавіч** (1814 ці 1815, Мін. пав. – 1872 ці 1875), дыпламат, вучонымовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, арыенталіст, натураліст – 190 гадоў з дня нараджэння.

**Завадскі Фелікс Юзафавіч** (каля 1824, Вільня – 1891), друкар, выдавец – 180 гадоў з дня нараджэння.

**Карчэўскі Мікалай Фёдаравіч** (1824–1902), архітэктар, які доўгі час працаваў у Віцебску, – 180 гадоў з дня нараджэння.

**Віцебская настаўніцкая семінарыя**, першая на Беларусі спецыяльная навучальная ўстанова (1834–1839) – 170 гадоў з часу заснавання.

**Гродзенскія гімназіі** (1834–1839) – 170 гадоў з пачатку існавання.

**Мінскае духоўнае мужчынскае вучылішча** (1834–1917) – 170 гадоў з часу заснавання.

**Віцебскі балет Піёна**, трупа пад кіраўніцтвам польскага балетмайстра М. Піёна (1844 ці 1845–1847) – 160 гадоў з пачатку існавання.

**Троіцкі Аляксандр** (1844–1887), этнограф, фалькларыст, даследчык абрадаў Докшыцкага раёна – 160 гадоў з дня нараджэння.

**Гардзялкоўская Тэрэза** (1854–1933), перакладчыца, выдавец, арганізатар беларускай школы ў Талачынскім раёне, дзе настаўнічаў Я. Колас, – 150 гадоў з дня нараджэння.

**Мілавідаў Аляксандр Іванавіч** (1864 – пасля 1933), вучоны-гісторык, археограф, бібліёграф, які пэўны час працаваў у Вільні, – 140 гадоў з дня нараджэння.

**Пестрыкаў Мікалай Малаевіч** (1864, Мінск(?) – ?), віяланчэліст, педагог, музычнаграмадскі дзеяч – 140 гадоў з дня нараджэння.

*(Працяг будзе.)*

## Ад дзядзькі Антося



***Дзядзька Антось:***

*– Я выпісваю "Краязнаўчую газету" і чытаю яе ад першага радка да апошняга. У № 17 за мінулы год мяне зацікавілі думкі чытачоў пра газету і іхнія парады. Я ўсё перачытаў разы тры: разумна, талкова. Вунь колькі, скажам, Алесь Карлюкевіч нажадаў! Толькі спраўся гэта рабіць!*

**– Дзякуй вам, што чытаеце газету, завіталі вось у рэдакцыю. Але давайце пазнаёмімся *(высокі, падцягнуты, але сівы-сівы)*.**

*– Я* **(развёў рукі)**, *бачыце, ужо не маладзён. Адзін са старэйшых у нас мужчын. Помню яшчэ 1920-я гады, беларусізацыю, уздым ва ўсім. Вучыўся на рабфаку, у 1930-я – ва універсітэце. Ацалеў. На вайне быў паранены, але выжыў. Доктар і двойчы кандыдат – гэта значыць, маю тры навуковыя ступені, сякія-такія вынаходніцтвы. Зразумела, даўно ўжо на пенсіі. Сам з вёскі, дык вельмі люблю зямлю. Зімой жыву ў горадзе, улетку – на дачы (лецішчы) і яшчэ корпаюся там паціху. А зваць мяне Антон... Давайце так* **(вельмі жвава на свой узрост)**: *дзед альбо дзядзька Антось.*

**– Прыемна. Але лепш: дзядзька.**

*– Ну* **(уцешна звёў перад сабой рукі)**, *і мне прыемна. А зайшоў я да вас вось чаму. Маю лецішча гадоў сорак, сам будаваў сабе домік, садзіў дрэвы, нават свае гатункі памідораў, гуркоў выводзіў. Але чамусьці у тым вашым № 17 ніхто не параіў адвецці ў газеце куток для дачнікаў, сялян. А гэта ж цікава. У мяне дык не адна папка выразак з розных газет (праўда, не ўсяму трэба верыць), нямала сваіх запісаў. Магу ўсё гэта перадаць вам.*

**– А калі вам самім скласці старонку? Хоць раз на месяц?**

*– Я* **(махае рукой)** *стары, ды і не журналіст.*

**– А кансультаваць згодны?**

*– Гэта калі ласка.*

**– Дык пачнем: вось цяпер студзень, дык што рабіць таму ж дачніку ў гэты час?**

*– Давайце.*

### Парады дачнікам і вяскоўцам

***Студзень***

– Зіма ў студзені, бывае, яшчэ толькі пачынаецца, калі нарэшце з'яўляюцца сапраўдныя снег, мароз, а то набяжыць і мяцеліца. Але добраму гаспадару не трэба быць заспакоеным, што да вясны, да працы ў агародзе і на полі яшчэ далёка, значыць, можна і не мець такіх клопатаў. Сапраўды, можна. Але ўсё ж варта зазірнуць у склеп (пограб, падвал, падмосце) і пацікавіцца, як там захоўваюцца агароднina і наша любіміца-бульба. Спрыяльна будзе, калі ўсё ў добрым стане. Да слова, агледзься качаны капусты, ці не з'яўляецца на ёй шэрая падгнільласць – вельмі вялікая шкодніца, якая псуе і саму капусту і яе смак. Варта пашкоджаны качан выдаліць ад іншых, хворае лісце абрэзаць, а качан патрымаць на святле, а ўсе астатнія, яшчэ знешне здаровыя качаны апыліць мелам. На моркву, буракі, рэпу, рэдзьку зімой можа напасці белая гніліта, карняплоды плеснявеюць, робіцца мяккімі і, зразумела, непрыгодны для ўжывання ў ежу. Што ж, пашкоджанае трэба выбракоўваць. Бульбу (калі яе шмат) не перабярэш, але трэба сачыць, ці не з'яўляюцца дзе сырыя, а то і мокрыя пляміны – значыць, там загнілася асобныя клубні і будуць распаўсюджваць хваробу фітафтароз. Можа псавацца бульба і ад фузарыёзнай сухой гнілаты ў выглядзе круглаватых плямін, уціснутых па краях. Пад лупінай утвараюцца аблямаваныя плесенню цёмнабурыя пляміны з пустатою. З цягам часу клубень знішчаецца амаль цалкам, гіне. Захварэлыя бульбіны трэба неадкладна выдаляць.

Тут варта сачыць яшчэ і вось за чым: калі ў памяшканні з бульбаю суха, то згнілыя мясціні бульбы сухія, а калі сыра, то бульбіны размякчэлыя. Спрыяльна, калі тэмпература там будзе 2–4 градусы.

*(Працяг будзе.)*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**Аркестр** (ад грэч. у стараж.грэч. тэатры пляцоўка перад сцэнай, на якой выступаў хор) – гурт інструменталістаў, які сумесна выконвае музыку, напісаную спецыяльна для пэўнага складу. Паводле яго аркестр бывае мяшаны (сімфанічны, эстрадны) і аднародны (струнны, духавы, ударных інструментаў). Па функцыі ў музычнай справе вылучаюцца оперны, ваенны, эстрадны і іншыя аркестры. Вышэйшы тып – сімфанічны аркестр, які бывае малы і вялікі. Выдзяляецца камерны аркестр, а таксама асобны тып – аркестр народных інструментаў.

Вялікія інструментальныя ансамблі, вядомыя з антычнасці, сярэднявечча, эпохі Адраджэння (літаратурныя крыніцы XVI ст. упамінаюць аркестры і на Беларусі ("Літоўская капэла"), на мяжы XVII ст. з'яўляюцца рэгулярныя ў сувязі з пашырэннем такіх музычных жанраў, як опера, араторыя, кантата. У XVIII ст. разнастайныя тыпы аркестраў дзейнічалі ў Шклове, Нясвіжы, Гродне, Горы-Горках, Слуцку, Слоніме і іншых гарадах. Аркестры дзейнічалі пры дварах, тэатрах, гарнізонах магнатаў, езуіцкіх касцёлах і школах ("касцёльная музыка" абслугоўвае не толькі богаслужэнні, але і балі, абеды, паляванні, дае канцэрты). У 1803–1917 гадах (з перапынкамі) існавалі Мінскі гарадскі аркестр, былі розныя аркестры і ў іншых гарадах пры гімназіях, пры пажарных і вайсковых часцях, былі і аматарскія аркестры. У паслярэвалюцыйны час шматлікія аркестры былі, ёсць на базе кансерваторый, музыкальных школ, музвучылішчаў, ваенных штабоў, тэатраў, цыркаў. Працуе шмат разнастайных самадзейных аркестраў.



*(Працяг будзе.)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасной – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана па друку: 22.01. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 127.
Тыраж 1050.